ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№11 (128) лістапад 2021 год
CATHOLICNEWS.BY

# Паведамленне нунцыя Ёзіча адносна крызісу з мігрантамі на беларуска-польскай мяжы

**12 лістапада Апостальскі нунцый у Рэспубліцы Беларусь арцыбіскуп Антэ Ёзіч выступіў з паведамленнем адносна крызісу з мігрантамі на беларуска-польскай граніцы.**




Каталіцкі Касцёл з вялікай увагай назірае за цяперашняй сітуацыяй, звязанай з крызісам з мігрантамі на беларуска-польскай граніцы.

Тысячы чалавек, што паходзяць з розных краін Блізкага Усходу, у пошуках лепшага жыцця бягуць ад шматлікіх цяжкасцяў, з якімі яны сутыкнуліся ў сваіх родных краінах, і жадаюць знайсці іншае месца жыхарства для сябе і для сваіх сем'яў.

Незалежна ад цяперашняга палітычнага крызісу ў Беларусі, праблема з мігрантамі патрабуе тэрміновых канкрэтных рашэнняў, вымагае кантролю над патокамі міграцыі і салідарнасці ўсіх, каб пайсці насустрач людзям, асабліва дзецям і жанчынам, якія на працягу многіх дзён застаюцца заблакаванымі на мяжы Беларусі з Еўрапейскім Саюзам.

Каталіцкі Касцёл заўсёды блізкі да тых, хто пакутуе або знаходзіцца ў цяжкіх жыццёвых абставінах, і праз сваю арганізацыю Caritas імкнецца прыйсці з гуманітарнай дапамогай тым, хто мае ў ёй патрэбу.

Я задаволены, што дыяцэзіяльныя Caritas гэтай краіны, таксама як і Caritas у Польшчы распачалі збор дапамогі для мігрантаў, katoрыя чакаюць неадкладных рашэнняў.

Касцёл моліцца пра вырашэнне гэтай надзвычайнай сітуацыі і просіць пра канкрэтныя дзеянні таксама ў палітычнай сферы дзеля ратавання чалавечых жыццяў.

У гэтым сэнсе Святы Айцец Папа Францішак нядаўна выступіў з заклікам адносна іншых патокаў мігрантаў у Еўрапейскі Саюз, просячы "запэўніць мігрантам годныя ўмовы жыцця і доступ да працэдур надання прытулку".

У цяперашні момант неабходная салідарнасць усіх, каб перадусім ратаваць жыцці людзей і каб прыйсці да найлепшага рашэння для тых, хто знаходзіцца на граніцы. Немагчыма проста глядзець на тысячы людзей, якія апынуліся на мяжы паміж жыццём і смерцю, чакаючы канкрэтных рашэнняў.

Заклікаю ўлады ўсіх зацікаўленых краін дзейнічаць рашуча і хутка, каб знайсці нават часовыя рашэнні дзеля выратавання жыццяў людзей.

Я заахвочаю ўсіх вернікаў-католікаў працягваць маліцца пра найхутчэйшае вырашэнне цяперашняга крызісу з мігрантамі ў Беларусі.



Як манахіня з Бабруйска стала місіянеркай у Камеруне
Стар. 8 – 9



Орден Матери получила прихожанка самого молодого прихода в Витебске
Стар. 6



Стар. 11
"Виноградник Рахили" в Орше

**Каляндар на снежань 2021:**

**28** лістапада распачынаецца час Адвэнту.

**6** снежня – успамін святога Мікалая.

**8** снежня – урачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.

**25** **снежня – урачыстасць Нараджэння Пана.**

**26** снежня – свята Святой Сям'і: Езуса, Марыі і Юзафа

**27** снежня – свята св. Яна, апостала і евангеліста

**28** снежня – свята святых Немаўлят, мучанікаў.



Абраз святога Губерта з'явіўся ў касцёле ў Лепелі
Стар. 9

**Малітва за ўцекачоў і мігрантаў**

У час, калі на граніцах нашай краіны разгортваецца сапраўдны гуманітарны крызіс, атулім малітваю людзей, якія належаць да найбольш уразлівай групы – мігрантаў і ўцекачоў.

Міласэрны Божа! Учыні, каб уцекачы і мігранты, пазбаўленыя дому, сям'і і усяго, што ім знаёма, адчулі Тваю прысутнасць, напоўненую любоўю! Сагрэй сэрцы дзяцей і старэйшых людзей, а таксама людзей найбольш слабых. Учыні, каб яны адчувалі, што Ты побач, так, як быў побач з Езусам, Марыяй і Юзафам, калі яны былі ўцекачамі ў Егіпце. Дапамажы ім знайсці сабе новы дом і новую надзею. Адкрый нашыя сэрцы, каб мы прымалі іх як сваіх сясцёр і братоў, а ў іх абліччах бачылі Твайго Сына, Езуса! Амэн.

# Расійская оперная спявачка прысвяціла музычны альбом Папу Рымскаму

**Першы сольны альбом опернай спявачкі Святланы Касьян Fratelli Tutti, прысвечаны Папу Рымскаму Францішку, выйдзе на музычных платформах 17 снежня ў дзень 85-гадовага юбілею Пантыфіка, распавяла спявачка для РИА Новости.**



"Гэта мой першы сольны альбом, ён быў запісаны ў чэрвені ў студыі ў Лос-Анджэлесе. Fratelli Tutti у перакладзе з італьянскай азначае "ўсе – браты". Такая ж была назва апошняй энцыклікі (пасланне Папы Рымскага біскупам і пастве – рэд.) Пантыфіка ў 2020 г. Ён звяртаецца не толькі да католікаў, але ўвогуле да вернікаў усяго свету, нагадваючы, што людзям розных рэлігій і нацыянальнасцей неабходна жыць у міры. Альбом зроблены ў падобнай канцэпцыі, у яго ўвайшлі кампазіцыі на розных мовах: італьянскай, грузінскай, армянскай, яўрэйскай, на латыні. Ён прысвечаны Папу Рымскаму і выйдзе 17 снежня – у дзень нараджэння Папы, яму споўніцца 85 гадоў", – сказала Святлана Касьян.

Прадзюсар і муж спявачкі, старшыня Сусветнага саюза стараабрадцаў Леанід Севасцьянаў, адзначыў, што Святлану і Пантыфіка звязваюць сяброўскія адносіны. Ён даўні прыхільнік яе таленту. У 2019 годзе Францішак уручыў спявачцы Рыцарскі ордэн святога Сільвестра за заслугі ў галіне культуры.

"Папа Рымскі – вялікі аматар оперы, ён слухае трэкі Святланы, яшчэ ён любіць аргенцінскае танга, а кампазіцыя La Cumparsita ў альбоме прысвечаная менавіта Папу Францішку. Святлана вось ужо дванаццаць гадоў спявае ў найлепшых оперных тэатрах Італіі. Ёй пашчасціла трапіць на аўдыенцыю ў Ватыкане і атрымаць ад Папы яго каштоўныя парады", – распавёў Леанід Севасцьянаў.

У 2013 годзе спявачка выступіла з сольным канцэртам у Рыме, арганізаваным пад эгідай Прэзідэнта Італіі і Папскай рады па культуры. У той жа дзень яна была на асабістай аўдыенцыі Папы Францішка. У 2017 і 2018 гадах Папа паўторна прыняў спявачку на аўдыенцыі і надаў Святлане Касьян ранг Дамы ордэна святога Сільвестра за заслугі перад царквой і каталіцтвам.

# У Ватыкане пачалі прышчапляць трэцяй дозай вакцыны

**У Ватыкане распачаўся чарговы этап вакцынацыі ад каранавірусу, у межах якога будзе ўводзіцца трэцяя доза вакцыны. Першы этап праходзіў са студзеня па чэрвень.**



"У другой палове кастрычніка Упраўленне аховы здароўя і гігіены Дзяржавы Ватыкан пачало прышчапляць трэцяй дозай вакцыны ад COVID-19, аддаючы прыярытэт людзям, старэйшым за шэсцьдзясят гадоў і ўразлівым асобам", – паведаміў, адказваючы на пытанне журналістаў, кіраўнік Залы Друку Апостальскай Сталіцы Матэа Бруні.

Падчас першага этапу ўсеагульнай кампаніі па вакцынацыі дзве дозы вакцыны Biontech-Pfizer атрымалі не толькі Папа і яго папярэднік на пасадзе Св. Пятра, ватыканскія іерархі, супрацоўнікі, пенсіянеры і іх блізкія, але таксама некалькі тысяч бедных і бяздомных.

Папа Францішак неаднаразова падкрэсліваў важнасць вакцынацыі. 18 жніўня 2021 г. ён запісаў спецыяльнае відэапасланне, у якім звярнуўся да ўсіх людзей у свеце з просьбай зрабіць прышчэпку супраць каранавірусу, што дапаможа спыніць пандэмію.

Папа назваў жэстам любові саму вакцынацыю і дапамогу людзям у яе рэалізацыі. "Існуе грамадская і палітычная любоў, універсальная, заўсёды напоўненая малымі жэстамі асабістай любові, здольнымі змяніць і палепшыць грамадства", – заўважыў ён.

"Вакцынацыя – гэта просты, але глыбокі спосаб прасоўвання агульнага дабра і клопату адно пра аднаго, асабліва пра найбольш уразлівых. Прашу Бога, каб кожны з нас унёс сваю пясчынку, свой маленькі знак любові. Якім бы маленькім ён ні быў, любоў заўсёды вялікая. Паспрыяй гэтымі малымі жэстамі лепшай будучыні", – заклікаў Папа Францішак у сваім відэапасланні.

*Аляксандр Панчанка*



# Пілігрымы вяртаюцца ў Святую Зямлю

**"Сёння раніцай, пасля шматмесячнага перапынку, я сустрэў першую групу пілігрымаў, якая прыбыла ў Святую Зямлю. Для нас гэта знак надзеі", – сказаў Лацінскі Патрыярх Іерусаліма.**

Пасля таго, як Ізраіль зноў адкрыў свае межы для вакцынаваных турыстаў, арцыбіскуп П'ербатыста Піцабала чакае новага прытоку пілігрымаў. "Мой вопыт паказвае, што пілігрымы, якія прыехалі ў Святую Зямлю, здзейснілі пілігрымку, перажываюць глыбокія змены ў сваім жыцці. У пэўным сэнсе яны прымаюць восьмы сакрамант. Таму што сакраманты звязваюць нас з асобай Езуса, а гэта і ёсць Святая Зямля. Вы можаце чытаць Евангелле, дзе б вы ні знаходзіліся, але, прыязджаючы сюды, з'яўляецца разуменне, што Бэтлеем, Назарэт і Бэтанія – не нейкія памятныя месцы, а рэальнасць. І гэта дапамагае наблізіцца да асобы Езуса як да канкрэтнай рэчаіснасці", – адзначыў іерарх.

Лацінскі Патрыярх Іерусаліма падкрэсліў, што вяртання пілігрымаў чакаюць і мясцовыя хрысціяне, якія ў значнай ступені залежаць ад абслугоўвання пілігрымскага руху. Ад гэтай падтрымкі залежыць выжыванне мясцовага Касцёла.

"На жаль, не толькі ў Святой Зямлі, але і на ўсім Блізкім Усходзе палітычная сітуацыя, войны, рэлігійная напружанасць, а таксама пандэмічная беднасць, эканоміка ў пермапентным крызісе прывялі да змяншэння колькасці хрысціян. Але, з іншага боку, не можна казаць, што мы – супольнасць у стане заняпаду. Мы застаёмся актыўнымі, у першую чаргу ў сферы адукацыі і аховы здароўя. Касцёл стварае працоўныя месцы, бо разумее, што трэба дапамагаць хрысціянскай супольнасці вельмі канкрэтна", – адзначыў арцыбіскуп Піцабала.

*Кс. Аляксандр Амяльчэня*

# Манахіня прызначана Генеральным сакратаром Губернатарата

**Упершыню ў гісторыі Генеральным сакратаром Губернатарата Дзяржавы Ватыкан стала жанчына, а яе намеснікам – свецкі вернік. Прызначэнні Папа Францішак падпісаў 4 лістапада.**



На пасаду Генеральнага сакратара Губернатарата Святы Айцец прызначыў с. Рафаэлу Петрыні, законніцу з кангрэгацыі Францішканак Сясцёр Эўхарыстыі. Манахіня нарадзілася ў 1969 годзе ў Рыме. Закончыла Міжнародны незалежны ўніверсітэт Гвіда Карлі па спецыяльнасці "паліталогія" і абараніла доктарскую дысертацыю на факультэце сацыяльных навук Папскага ўніверсітэта св. Тамаша Аквінскага ў Рыме, дзе цяпер выкладае эканоміку дабрабыту і сацыялогію эканамічных працэсаў. З 2005 года была супрацоўніцай Кангрэгацыі Евангелізацыі Народаў.

Падсакратаром Губернатара Дзяржавы Ватыкан Папа прызначыў італьянскага адваката Джузэпэ Пулізі-Алібрандзі, які з 2017 г. быў кіраўніком Аддзела па прававых пытаннях, грамадзянскім стане і натарыяце ў Губернатарацe. Ён нарадзіўся ў 1966 г. у Рыме. Закончыў юрыдычны факультэт Рымскага ўніверсітэта "Ля Сапіенца". На службе ў Губернатарацe з 2014 г.

*Аляксандр Панчанка*

*Старонка падрыхтавана па матэрыялах сайта беларускай рэдакцыі Vatican News*

# Асноўныя моманты дыяцэзіяльнага этапу Сіноду Біскупаў

**Старшыня сінадальнай камісіі кс. Аляксей Ляшко патлумачыў асноўныя моманты дыяцэзіяльнага этапу Сіноду Біскупаў у Віцебскай дыяцэзіі. Запрашаем азнаёміцца з тэкстам тлумачэння.**

**Дарагія браты і сёстры, шаноўныя святары, законныя браты і сёстры!**

Як вы ўжо ведаеце, Святы Айцец Францішак абвясціў адкрыццё дыяцэзіяльных этапаў Сіноду Біскупаў, каторы адбудзецца ў Рыме ў 2023 годзе. Ён запрасіў усіх нас, нягледзячы на тое, кім мы з'яўляемся (свецкія вернікі ці духоўныя асобы), прыняць удзел у падрыхтоўчым этапе гэтага Сіноду. Папа жадае пачуць і зразумець, чым жыве Касцёл у свеце, якія праблемы і пытанні яго хвалююць. Ён хоча, каб у гэтым падрыхтоўчым этапе прыняў удзел кожны па магчымасці і жаданні.

**Што галоўнае ў Сінодзе?**

Галоўным этапам Сіноду з'яўляецца слуханне, распазнаванне і ўдзел. Аднак сінадальны працэс – гэта перш за ўсё працэс духоўны. Гэта не сухі адказ на пытанні анкеты, якую ўжо праз некалькі дзён мы з вамі атрымаем ці зможам пабачыць у каталіцкіх сродках масавай інфармацыі. Галоўнай мэтай падрыхтоўчага этапу Сіноду з'яўляецца слуханне, якое накіраванае на распазнаванне таго, што Бог кажа ўсім нам. Толькі дзякуючы натхненню Духа Святога, у якім "знаходзіцца нашае адзінства і які дзейнічае ў кожным месцы і ў кожны час" (пар. Малітва за Сінод Adsumus Sancte Spiritus), мы зможам выказаць нашыя думкі, надзеі і даць адказ.

**Агульны дакумент для Апостальскай Сталіцы**

Пазней нашыя адказы будуць апрацаваныя ў канчатковы дакумент, які, у сваю чаргу, будзе перададзены ў Генеральны Сакратарыят Сіноду Біскупаў у Апостальскую Сталіцу. Вядома, што для таго, каб апрацаваць усе адказы, неабходная пэўная колькасць адказных за гэта асобаў. І таму біскуп Віцебскі Алег Буткевіч




прызначыў Дыяцэзіяльную сінадальную камісію, у якую ўвайшлі прадстаўнікі духавенства і свецкай супольнасці: кс. Аляксей Ляшко, кс. кан. Віктар Місевіч, а. Анджэй Юхневіч OMI, с. Серафіна Мацулевіч – служабнічка НМПБЗ, с. Дар'я Галубкова OV, сп. Дзмітрый Образаў. Адказнымі за супрацоўніцтва з Дыяцэзіяльнай сінадальнай камісіяй у дэканатах ксёндзбіскуп прызначыў ксяндзоў-дэканаў.

Жаданне Папы – пачуць усіх людзей: самых уразлівых, нябачных, тых, якія аддаліліся ад Касцёла або не маюць у ім свайго голасу. Мы разумеем, наколькі абмежаваныя нашы магчымасці, але спадзяёмся на дапамогу Святога Духа, Які і з'яўляецца падмуркам любой сабornасці і нашага адзінства насуперак усім супярэчнасцям, крыўдам, ранам і страхам, што нас дзеляць.

Мы абяцаем, што згодна з падрыхтоўчымі сінадальнымі дакументамі зробім усё, што ад нас залежыць, каб галасы тых, хто прыме ўдзел у гэтым этапе Сіноду, знайшлі сваё месца ў выніковым дакуменце.

Аднак нам неабходна памятаць, што канчатковая мэта абвешчанага Папам Францішкам Сіноду і згаданых кансультацый – гэта "не распрацоўка дакументаў. Мэта Сіноду – зрабіць так, каб здзяйсняліся мары, нараджаліся прароцтвы і бачанні, квітнелі надзеі, абуджаўся давер, гаіліся раны, завязваліся адносіны, займалася зара надзеі, каб мы вучыліся адно ў аднаго і разам стварылі вобраз Касцёла, які асвятляе розум, запальвае сэрцы і надае моц рукам" (пар. "На карысць сінадальнага Касцёла: камунія, удзел і місія". Падрыхтоўчы дакумент).

**Хто можа прыняць удзел у Сінодзе?**

Мы просім кожнага па магчымасці прыняць удзел у сінадальным працэсе і асабіста, і дапамагаючы тым, хто знаходзіцца побач з намі: старэйшым людзям, якія не могуць даехаць да касцёла і не ўмеюць карыстацца інтэрнэтам; тым, хто з розных прычын аддаліўся ад Касцёла; усім тым, хто мае патрэбу ў нашай дапамозе.

Дарагія браты і сёстры! Не бойцеся звяртацца да любога з нас, калі вам патрэбна якаянебудзь дапамога. Не бойцеся звярнуцца і тады, калі вы самі не ведаеце, якая менавіта дапамога вам патрэбная: магчыма, мы таксама гэтага не ведаем, але мы як сінадальная камісія гатовы ставіць пытанні і шукаць адказы разам з вамі. Ва ўсіх выпадках мы пастараемся пачуць, зразумець і дапамагчы.

**Зваротная сувязь**

Для дапамогі, звязанай з дыяцэзіяльным этапам Сіноду, створана адмысловая паштовая скрыня **sinod.vicebsk@gmail.by**, на якую вы можаце дасылаць свае пытанні. Калі ў вас няма магчымасці даслаць іх праз інтэрнэт, вы можаце звярнуцца па дапамогу да сваіх душпастыраў і дэканаў, а таксама можаце накіраваць свае пытанні звычайнай поштай па адрасе:

**Дыяцэзіяльная сінадальная камісія,
вул. Воінаў-Інтэрнацыяналістаў, 28,
210032 г. Віцебск**

# Чатыры гады ў палоне ісламістаў. Сведчанне сястры Глорыі Нарваес

**Сястра Глорыя Сэсілія Нарваес Аргоры, якая правяла ў палоне ісламістаў чатыры гады і восем месяцаў і была вызваленая 9 кастрычніка 2021 г., падзялілася сваім досведам.**



**Сястра Глорыя Нарваес пасля вызвалення з палону**

59-гадовая калумбійская місіянерка з кангрэгацыі сясцёр-францішканак Марыі Беззаганнай служыла на поўдні Малі шэсць гадоў, імкнучыся разам з іншымі каталіцкімі манахінямі адказваць на вялікую нястачу, якая ёсць у рэгіёне.

"Мы працавалі ў цэнтры медыцынскай дапамогі для людзей з розных вёсак, у дзіцячым прытулку, дзе звычайна пражывалі некалькі дзясяткаў сіротаў, маці каторых памерлі падчас родаў. Мы вучылі пісьменнасці, вышыўцы і шыццю, займаліся таксама мікракрэдытаваннем для падтрымкі невялікага гандлю на рынку, асабліва жанчын, каб яны маглі рабіць свой уклад на карысць сям'і", – падзялілася законніца.

На працягу некалькіх месяцаў францішканкі больш не прысутнічаюць на поўдні Малі, але ініцыятывы, якім яны далі пачатак, за выключэннем выдачы мікракрэдытаў, працягваюць ажыццяўляцца дзякуючы мясцовым жанчынам і пры падтрымцы дыяцэзіі. Адна з прычын прыпынення служэння – небяспека, звязаная з дзейнасцю тэрарыстычных груповак.

7 лютага 2017 г. на тэрыторыю парафіі ў Карангасе ўварваліся ўзброеныя людзі, звязаныя з Аль-Кайдай, якія звезлі місіянерку ў невядомым кірунку. Яна прабыла ў няволі да 9 кастрычніка 2021 г., пакуль не была вызваленая дзякуючы намаганням уладаў і спецслужбаў Італіі і Малі і малітоўнай падтрымцы Касцёла. "У кожны момант мяне падтрымлівала вера. Я не баялася таго, што магло здарыцца са мной, бо ведала, што Бог мяне падтрымліваў, што ўвесь Касцёл, мае сёстры і ўвесь свет маліліся за мяне", – прызналася місіянерка.

Сястра Глорыя распавяла, што ставілася да сваіх выкрадальнікаў з вялікай павагай, малілася за кожнага з іх і была паслухмянай у тым, што лічыла слушным. "Я мела добрыя чалавечыя адносіны да іх", – дадала місіянерка, заўважаючы, што выкрадальнікі, у сваю чаргу, дыскрымінавалі яе, таму што яна была каталіцкай манахіняй, не была адной рэлігіі з імі.

Францішканка прызналася, што ніколі не баялася за сваё жыццё. "Калі мяне выкралі, я была гатовая да ўсяго. Давярала Богу. Я сказала сабе: "Няхай станецца так, як павінна быць, бо была гатовая аддаць маё жыццё", – распавяла яна.

Па словах законніцы, яна адчувала прысутнасць Бога побач, "калі малілася псальмамі, калі магла крыху пашпацыраваць у пустыні і сузіраць веліч стварэння, сонца, якое ўставала раніцай, вярблюдаў, якія праходзілі ўздоўж пясчаных гор". "У кожны кожны момант я адчувала моцную ўпэўненасць у Богу", – дадала с. Глорыя.

Пасля вызвалення з няволі калумбійская місіянерка была дастаўлена самалётам у Рым. Яна прыняла ўдзел у св. Імшы, якую Папа цэлебраваў у Ватыкане з нагоды адкрыцця XVI Звычайнай Асамблеі Сіноду Біскупаў, а перад пачаткам літургіі мела магчымасць асабіста сустрэцца са Святым Айцом, раздзяліць з ім сваю радасць і атрымаць благаслаўленне.

***Аляксандр Панчанка,***
*беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*



# Першая гадавіна смерці ксяндза Леаніда Мозгеля

**9 лістапада ў касцёле Унебаўшэсця Пана ў Дзеркаўшчыне вернікі разам са святарамі з Глыбоцкага, Пастаўскага і Мёрскага дэканатаў маліліся ў інтэнцыі папярэдняга пробашча Леаніда Мозгеля ў першую гадавіну яго смерці.**

Святую Імшу канцэлебраваў дэкан Пастаўскі і пробашч парафіі ў Дунілавічах кс. Павел Самсонаў, гамілію прамовіў дэкан і пробашч Мёрскі кс. Андрэй Кулік. Святар узгадаў жыццё і адданае служэнне Богу і людзям спачылага кс. Леаніда.

На заканчэнне літургіі дэкан Глыбоцкі кс. МікалайЦіхановіч шчыра падзякаваў вернікам, якія сабраліся ў святыні, а таксама святарам, што знайшлі час і прыбылі ў Дзеркаўшчыну, каб памаліцца за свайго сабрата.

Ксёндз Леанід паходзіў з тэрыторыіГродзенскай дыяцэзіі. Але быў святаром Віцебскай дыяцэзіі і нёс служэнне ў Ветрыне, Фарынаве, Блізніцы, Бягомлі, Павяцці і Ідолце, у апошні час служыў пробашчам парафіі Унебаўшэсця Пана ў Дзеркаўшчыне.

Адышоў у вечнасць 9 лістапада 2020 года. Пахаваны ў Старых Васілішках.

9 лістапада сёлета пасля Імшы ў касцёле святых апосталаў Пятра і Паўла ў Старых Васілішках (Шчучынскі дэканат) прысутныя накіраваліся да магілы кс. Леаніда. Яна знаходзіцца каля мясцовай старадаўняй святыні, якая адыграла важную ролю ў яго жыцці. Біскуп Алег Буткевіч благаславіў помнік, усталяваны на магіле святара.

***Марына Сінкевіч, тэкст***
***Фота з grodnensis.by***

# Мінск і Міншчына ў перыяд 23. II. 1917 – 18. III. 1921

**(Працяг, частка 2. Пачатак – у папярэднім нумары)**

**Пасля паўторнага заняцця Мінска адносіны савецкіх уладаў да польскага насельніцтва сталі вельмі недаверлівымі і падазронымі, асабліва да ксяндзоў. Ксяндзы, якія працавалі ў мінскіх касцёлах, баючыся арышту, пакінулі горад. Пробашч катэдральнага касцёла мінскі дэкан ксёндз Святаполк-Мірскі таксама выехаў з горада, даручаючы мне выкананне яго абавязкаў.**

**■ Пераклад і падрыхтоўка да друку Раісы Зянюк**

10 мая 1919 г. а першай гадзіне да касцёла звярнуліся працаўнікі Надзвычайнай Камісіі (ЧК) для правядзення рэвізіі маёмасці зямян навакольных маёнткаў, складзенай у падзямеллях касцёла. Пасля таго як адкрылі куфары, яны бралі дамскую бялізну і развешвалі яе ў касцёле. Я катэгарычна запратэставаў, адзначаючы, што яны маюць права правесці рэвізію і нічога больш. Камісар яўрэй Эльберт не жадаў спыніць прафанацыю святыні. Прысутныя пры рэвізіі парафіяне, бачачы, што мае словы не маюць ніякага эфекту, схапілі за каўнер Эльберта і хацелі выкінуць яго з касцёла. Эльберт змог дастаць рэвальвер і, адстрэльваючыся, пачаў уцякаць з касцёла. У той час савецкі патруль, які праходзіў праз катэдральны пляц, палічыўшы, што мае справу са злодзеем, выстраліў, але, на шчасце, не трапіў у Эльберта. Пасля салдаты ўварваліся ў катэдру, арыштавалі мяне і некалькі парафіян і перавезлі нас у Галоўную камендатуру міліцыі, а пасля ў турму.

Увечары адбыўся суд, які прысудзіў мяне да смяротнага пакарання (Справа па абвінавачанні "в сопротивлении изъятию церковных ценностей". Абвінавачаны адзін чалавек – Усас Браніслаў Мацвеевіч – заўв. Р.З.). Да 23 мая я знаходзіўся ў мінскай турме, пасля мяне перавезлі ў катаржную турму ў Смаленску. На маё шчасце, літоўскі ўрад арыштаваў кіраўніка тамтэйшых камуністаў Міцкевіча-Капсюкаса, імя якога носіць Віленскі ўніверсітэт, раней – [імя] Стэфана Баторыя. Літоўскі ўрад паведаміў савецкаму ўраду ў Маскве, што прапануе абмен закладнікамі. За перадачу савецкім уладам Капсюкаса ён жадае выдачы ўсіх дзеячаў, асабліва ксяндзоў-літоўцаў, якія знаходзяцца у савецкіх турмах, пакідаючы права літоўскаму ўраду пазбавіць жыцця Капсюкаса і яго таварышаў, калі савецкі ўрад расстраляе каго-небудзь з літоўскіх закладнікаў.

Хутка дайшло да факту замены. 20 ліпеня нас, літоўскіх закладнікаў у колькасці 15 чалавек, у тым ліку 13 мужчын і 2 жанчын, вывезлі са Смаленска ў Дынабург. Адтуль пехатою нас пагналі да Нова-Аляксандраўска – 24 вярсты. Тут мы начавалі ў турме, а назаўтра нас пасадзілі на двуконныя вайсковыя вазы, завязалі вочы, звязалі рукі і пад канвоем павезлі на расійскія пазіцыі, дзе паміж расійскімі і літоўскімі акопамі каля вёсак Дэгулі і Дангелі былой Ковенскай губерні а 2.30 у начы наступіў абмен закладнікамі. За 15 літоўскіх закладнікаў Расія атрымала 38 камісараў. Быў гэта хіба што адзіны абмен закладнікамі, здзейснены ў акопах.

[арк. 20] Пасля абмену нас прывезлі ў Коўна, сталіцу Літвы, дзе я падзякаваў літоўскаму ўраду за атрыманне свабоды, а на прапанову застацца ў Літве прасіў аб магчымасці вярнуцца ў Польшчу, заявіўшы, што хоць я і літвін па паходжанні, але як каталіцкі святар, працуючы сярод палякаў і будучы арыштаваным як польскі закладнік, паляк, пасля вядомай стралянiны ў мінскай катэдры, атрымаўшы свабоду, лічу сваім маральным абавязкам вярнуцца ў Польшчу з мэтай прыспешыць справу абмену польскіх закладнікаў, якія знаходзяцца ў расійскіх турмах у вельмі цяжкіх умовах.

Таксама я адзначыў, што мой бацька, будучы заснавальнікам Літоўскага таварыства ўзаемнай дапамогі ў Пецярбургу, а таксама і я, выхаваныя ў традыцыях Гарадзельскай уніі, заўсёды лічылі, што Польшча і Літва павінны быць адной федэратыўнай дзяржавай, а пэўныя варожыя адносіны паміж палякамі і ліцвінамі ёсць і будуць яшчэ большай крыўдай і няшчасцем для абодвух народаў. Мушу прызнаць, што ў гэтым сэнсе ліцвіны паказалі надзвычайную талерантнасць і зразуменне, чаго палякі хіба што ніколі б не зрабілі, і на маю просьбу далі мне магчымасць выехаць у Вільню, якая нядаўна была занятая легіёнамі Пілсудскага.

Пасля прыезду ў Вільню першы візіт я зрабіў да віленскага ксяндза-біскупа Ежы Матулевіча, які ведаў мяне яшчэ з пецярбургскіх часоў, калі ён некалькі гадоў быў выкладчыкам у Духоўнай акадэміі. Прысутныя на аўдыенцыі айцы-езуіты прапанавалі мне пасяліцца ў іх кляштары пры касцёле св. Казіміра да моманту магчымасці вяртання ў Мінск.

Ксёндз-біскуп Матулевіч параіў мне напісаць дакладную запіску па справе польскіх закладнікаў у Расіі і прадставіць яе асабіста прысутнаму ў Вільні кіраўніку дзяржавы Юзафу Пілсудскаму. Паслухаўшы парады, за два дні я распрацаваў падрабязную дакладную запіску, якую 8 жніўня 1919 г. прадставіў у канцылярыю каменданта. Назаўтра маршалак Пілсудскі праз свайго ад'ютанта запрасіў мяне на асабістую сустрэчу, для абмеркавання пытанняў, закранутых у ёй.

Між іншымі справамі, па даручэнні закладнікаў мінскай зямлі, я закрануў пытанне паскарэння здзяйснення абмену, адзначаючы, што большая частка закладнікаў доўгі час сядзіць за кратамі, церпяліва зносячы ўсе абразы. Набліжаецца зіма. Пануе эпідэмія плямістага тыфу. Не хапае бялізны, цёплай вопраткі, а тым часам колькасць закладнікаў павялічваецца. І калі 23 ліпеня 1919 г. я пакідаў Расію, іх лічба з Міншчыны складала каля 200 чалавек. Наймалодшая – Іза Валовічаўна – вучаніца жаночай школы ім. Эміліі Плятэр у Мінску [арк. 21], мае 15 гадоў, а найстарэйшая – пані Вайнілавічувна – мае 82 гады. Большая частка закладнікаў не належыць да заможнага класу. Гэта пераважна рабочыя – тэхнічныя супрацоўнікі, працаўнікі розных кантор, эканомы, настаўнікі і настаўніцы, лекары і г.д., якія пакінулі сем'і без аніякіх сродкаў да жыцця. Таму закладнікі прасілі, каб польскі ўрад паклапаціўся пра іх сем'і і паказаў такім чынам, што ён неабыякавы і дбае пра жыццё сем'яў тых грамадзян, якія, будучы вернымі сынамі сваёй айчыны, не выракліся прыналежнасці да польскага народа.



**Дамініканскі касцёл у Мінску** *(history-belarus.by)*

Начальнік дзяржавы Юзаф Пілсудскі, былы шматгадовы вязень у Сібіры часоў царызму, на сабе зведаў жахі жыцця ў расійскіх турмах. Таму цяпер з вялікім клопатам выпытваў мяне пра найменшыя падрабязнасці ўмоў жыцця польскіх закладнікаў, абяцаючы са свайго боку зрабіць усё магчымае, каб паскорыць тэрмін іх вызвалення. Што да маёй асобы, то таксама аказаў вялікі клопат, дазваляючы мне вярнуцца ў Мінск адразу ж пасля яго заняцця палякамі.

8 жніўня 1919 года польскія легіёны ўвайшлі ў Мінск. Пасля рамонту чыгуначных шляхоў, якія злучалі Мінск з Вільняй, першым таварным цягнікам, каторым ехалі польскія ўраднікі, каб заняць адміністрацыйныя пасады, выехаў з Вільні ў Мінск і я.

Заняцце Мінска польскімі войскамі выклікала ўвядзенне польскай адміністрацыі, што, вядома, адразу ж адбілася на павышэнні дабрабыту польскіх грамадзян, якія жылі на мінскай зямлі. Былі не толькі ліквідаваны ўсе ранейшыя абмежавальныя і крыўдныя для польскага насельніцтва распараджэнні, але з боку новай адміністрацыі працаўнікі, якія, за малым выключэннем, былі на адпаведным узроўні, клапаціліся пра дабро земляркоў. На чале Мінскай акругі польскімі ўладамі быў прызначаны малады юрыст Уладзіслаў Рачкевіч (нядаўна памерлы ў Люблiне як эміграцыйны прэзідэнт РП), які падчас рэвалюцыі ў Расіі быў Старшынёй саюзу польскіх жаўнераў у расійскім войску і адыграў сур'ёзную ролю ў фарміраванні корпуса генерала Доўбар-Мусніцкага ў Бабруйску. Гэта быў энергічны адміністратар перадавых поглядаў, з боку якога я меў вялікую дапамогу ва ўсіх справах, з каторымі да яго звяртаўся. Яго шанавалі не толькі палякі, але і яўрэі, і беларусы.

Пасля вяртання ў Мінск я адразу ж аднавіў працу па адбудове падамініканскага касцёла. Мяне выбралі ў Раду горада. Амерыканская місія (American Relief Administration, ARA – заўв. Р.З.), якая клапацілася пра бедных дзяцей, выбрала мяне сваім упаўнаважаным, а мінскае насельніцтва – Старшынёй камітэта [арк. 22] дапамогі дзецям. Па даручэнні Амерыканскай місіі штодня я карміў на Міншчыне 65 тысяч дзяцей. Каб паказаць маю працу ў Камітэце дапамогі дзецям, прыводжу частку ліста Амерыканскай місіі ад 18 мая 1920 г. да кіраўніка Мінскай акругі, дзе, сярод іншага, чытаем: "...Найлепшыя сілы грамадства прыйшлі нам з дапамогай і Мінскі камітэт на працягу ўсяго года сваёй дзейнасці быў заўсёды ўзорам ладу і выніковасці ў дасягнутых выніках. У суседніх камітэтах часта сустракаем неразуменне нашых прынцыпаў, фальшывае кіраванне і пасіўнасць членаў усёй каманды, а Мінскі камітэт заўсёды даваў доказы сапраўднага клопату пра справу і мудрага кіравання. У іншых камітэтах у нас ёсць шэраг злоўжыванняў, у асобных сталоўках і ўстановах, з якімі трэба змагацца, а ў Мінскім камітэце акцыя рэалізуецца так, што ўмяшальніцтва Цэнтра зусім не патрэбна, і не было тут аніводнага выпадку растраты. Толькі што рэалізаваная Мінскім камітэтам раздача 18 тысяч камплектаў вопраткі для самай беднай дзятвы з'яўляецца ўзорам умелай арганізацыі і справядлівага падзелу.

Абшар тэрыторыі і ўмовы камунікацыі ніколі не былі перашкодай для Мінскага камітэта, які дабраўся да самых далёкіх закуткоў і сёння атрымаў ад Цэнтра ў Варшаве 62 тысячы дзённых порцый у сваё распараджэнне.

Да такой дзейнасці Мінскага камітэта найбольш спрычыніўся ксёндз-рэктар Усас, якога Камітэт выбраў сваім старшынёй. Ксёндз Усас сваім розумам з лёгкасцю зразумеў змест нашай акцыі і ўзбагаціў яе прынцыпамі справядлівасці і братэрскай любові да ўсіх, хто патрабуе дапамогі.

Амерыканская місія і Дзяржаўны камітэт маюць поўны давер да ксяндза Усаса, а яго меркаванне часта бывае вырашальным у найважнейшых справах справаздачнасці аб харчаванні.

Таму таксама з няз- ⇒



O. O. REDEMPTORYŚCI Z WARSZAWY

w Dominikańskim kościele w Mińsku

18 października w sobotę o godz 5 wieczorem rozpoczną

REKOLEKCYE DLA WSZYSTKICH

Rekolekcye będą trwały 19, 20, 21, 22 października.

Msza święta i nauki rekolekcyjne co dzień o godz. 6 i 10 rano i 5 wieczorem

Zakończenie—23 października—wspólną komunją.

Ks. BRONISŁAW USSAS
rektor kościoła Dominikańskiego.

**Абвестка пра правядзенне рэкалекцый у падамініканскім касцёле ў Мінску** *(Бібліятэка Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта, зборы кс. Браніслава Усаса)*

# ва ўспамінах ксяндза Браніслава Усаса

⇐ мернай прыкрасцю мы даведаліся, што ксёндз-рэктар знаходзіцца напярэдадні выхаду з акцыі па патрабаванні сваёй духоўнай улады. Даведаўшыся пра гэта, мы звяртаемся да Шаноўнага Пана як першай асобы ў акрузе, просячы пра ўмяшальніцтва. Прагнем паведаміць Шаноўнаму Пану, што, працуючы ў яго акрузе, ужо год не бачым іншай асобы, якая б магла замяніць ксяндза Усаса, і перакананыя, што яго адстаўка будзе пачаткам згасання акцыі ў Мінскай акрузе".

Падставай для напісання падобнага ліста былі наступныя акалічнасці: большасць каталіцкага духавенства мела эндэцкія перакананні. Я ж са студэнцкіх часоў меў прагрэсіўныя погляды, сацыялістычныя, і адпаведна са сваімі перакананнямі прамаўляў [арк. 23] прамовы на сходах грамадскіх арганізацый. Беручы пад увагу, што ў Мінску жылі тры найбольш шматлікія нацыянальнасці – палякі, беларусы і яўрэі, я лічыў, што істотныя інтарэсы польскага народа вымагаюць шанавання правоў беларусаў і яўрэяў. Атачаючы іх клапатлівай апекай, мы паўплываем на тое, што яны стануць прыхільнікамі польскай улады.

Ксёндз-біскуп Лазінскі таксама крытычна ставіўся да маіх палітычных поглядаў. Неаднаразова ён пераконваў мяне і заахвочваў, каб я поўнасцю прысвяціў сябе душпастырскай і навуковай працы ў Духоўнай семінарыі, дзе я ўжо быў прафесарам і пракуратарам. Некалькі ўплывовых грамадскіх дзеячаў у Мінску, у тым ліку два ксяндзы, якія мелі шавіністычна-эндэцкія перакананні, беручы пад увагу мае вышэйназваныя грамадскія погляды, намаўлялі ксяндза-біскупа Лазінскага адхіліць мяне ад кіравання прац у камітэце Амерыканскай місіі. Ліст упаўнаважанага Амерыканскай місіі інжынера Яна Смігляўскага да пана Уладзіслава Рачкевіча меў, аднак, сур'ёзны вынік, і я і далей заставаўся на пасадзе старшыні аж да ліпеня 1920 г., калі з польскімі ўладамі павінен быў пакінуць Мінск.

Успамінаючы імя інжынера Яна Смігляўскага, мушу адзначыць, што насельніцтва Мінска шмат у чым было яму абавязана. Акрамя супрацоўніцтва са мной у Камітэце дапамогі дзяцям, інжынер Смігляўскі аказваў мне значную дапамогу ў арганізацыі і кіраванні швейнай майстэрняй па пашыве бялізны для войска, у якой мы далі працу каля 200 жанчынам. Інжынер Смігляўскі пастаянна падтрымліваў любую маю ініцыятыву, дапамагаючы не толькі сваімі эфектыўнымі парадамі, але вельмі часта і ўмяшальніцтвам да адпаведных уладаў, у якіх ён карыстаўся вялікай павагай, дзякуючы чаму вельмі аблягчаў мне рэалізацыю маіх пачынанняў і планаў.

Пасля заняцця польскім войскам Мінска 8 жніўня 1919 г. польскія ўлады вырашылі, што дзяржаўныя архівы знаходзяцца ў гаротным стане. Архіў размяшчаўся ў даўнейшым пабернардзінскім касцёле, дзе працякаў дах, і значная частка дакументаў згніла. Дакументы былі неўпарадкаваныя, не было вопісаў. Паколькі не было прафесійных архівістаў і немагчыма было заангажаваць спецыялістаў, па парадзе інжынера і дырэктара Корзана – старшыні мясцовага Аддзела таварыства аховы помнікаў – звярнулася да мяне Грамадзянская адміністрацыя ўсходніх зямель з просьбай заняць пасаду кіраўніка архіва. У адказе я адзначыў, што мне не хапае часу з-за маёй працы ў касцёле, у семінарыі, у камітэце дапамогі дзецям, у саюзе хрысціянскай дэмакратыі – гэта абсалютна не пакідае мне вольнага часу. У выніку я згадзіўся на гэтую пасаду пад умовай, што буду займаць яе да моманту знаходжання адпаведнага спецыяліста.

Лістом ад 12 сакавіка 1920 г. Генеральны камісар Адміністрацыі ўсходніх зямель прызначыў мяне кусташам Дзяржаўнага архіва ў Мінску. На гэтай пасадзе я знаходзіўся да моманту выезду з Мінска [арк. 24] праз заняцце яго савецкімі войскамі. Маючы ў дапамогу толькі аднаго чалавека, я быў вымушаны абмежаваць працу выключна да перавозкі ў архіў актаў з устаноў былых расійскіх уладаў і іх адпаведнай сарціроўцы. Падрабязную справаздачу аб гэтай рабоце я выслаў у Вільню ў Генеральны камісарыят першага архіўнага аддзела 22 мая 1920 г. Акрамя гэтага асабіста правёў разбор дакументаў, што датычылі скасаваных кляштараў на Міншчыне, якія, на жаль, насілі сляды рабаўніцкага гаспадарання маіх папярэднікаў, паколькі ўтрымлівалі недахопы шэрагу дакументаў, вырваных з папак варварскім спосабам.

Што датычыць адбудовы падамініканскага касцёла пасля майго вяртання з турмы ў Смаленску, мушу з удзячнасцю ўзгадаць аб бескарыснай працы інжынера-архітэктара Антона Краснапольскага, які ад першай хвіліны заняцця намі падамініканскага будынка апрацоўваў усе планы і праекты адбудовы, клапоцячыся адначасова і аб іх зацвярджэнні ў адпаведных установах адміністрацыі, заўсёды з радасцю служачы сваімі парадамі і вопытам.


**Біскуп Станіслаў Гал** *(вікіпедыя)*

У літургічным жыцці касцёла я ўвёў шэраг інавацый, якія да таго часу не практыкаваліся ў Мінску. Касцёл быў адкрыты на працягу ўсяго дня – ад 6 раніцы да 19 увечары. Св. Імшы ў будныя дні адбываліся а 6, 7, 8 і 9 раніцы, прычым на кожнай імшы Евангелле чыталася па-польску непасрэдна пасля лацінскага тэксту. Я таксама ўвёў штодзённае вячэрняе набажэнства а 19 гадзіне. Пры касцёле арганізаваў хор з 40 чалавек. У 1919 годзе пасля перамоваў з айцамі-рэдэмптарыстамі з Варшавы зладзіў рэкалекцыі для католікаў, якія адбываліся ад 19 да 23 кастрычніка ўключна пад кіраўніцтвам айца Гурскага і пры ўдзеле двух іншых рэдэмптарыстаў.

Па просьбе ваенных уладаў я даў згоду на тое, каб падамініканскі касцёл быў прызнаны гарнізонным. Палявы біскуп Станіслаў Гал прызначыў вайсковым капеланам айца-езуіта Пільха, якому для дапамогі ў душпастырскай працы ксёндз-біскуп Зыгмунт Лазінскі даў ксяндза Антонія Александровіча. Абодва пасяліліся пры маім касцёле і аказаліся добрымі душпастырамі, дзякуючы чаму набажэнствы, а асабліва казанні, якія яны прамаўлялі, прыцягвалі да касцёла ўсё больш людзей.

У сувязі з тым, што ксяндзы з катэдральнага касцёла былі абцяжараныя душпастырскай працай, па просьбе пробашча ксяндза Леона Святаполк-Мірскага я згадзіўся бескарысна абслугоўваць хворых гарадскога шпіталя на Траецкай гары. Гэтыя абавязкі я выконваў асабіста ўвесь час свайго знаходжання ў Мінску.

*Працяг будзе*

# "Ахопленыя надзеяй"

**Знаёмім паважаных чытачоў з новай кнігай "Ахопленыя надзеяй" – пра гісторыю Касцёла і Таварыства св. Францішка Сальскага на тэрыторыі сучаснай Беларусі з 1921 па 1991 гады.**

Галоўная мэта дадзенай працы, аўтарам якой з'яўляецца салезіянін кс. Артур Ляшнеўскі, – гэта даследаванне і апісанне дзейнасці Таварыства св. Францішка Сальскага на беларускіх землях падчас трох перыядаў: у міжваенны, ваенны і пасляваенны, да 1991 года. У гэтай працы таксама зроблена спроба адказаць на пытанне: "Які ўплыў мела прысутнасць салезіянаў на тагачаснае і цяперашняе душпастырства і выхаваўчую працу на тэрыторыі сучаснай Беларусі?" У тэксце таксама падкрэсліваецца вялізны ўклад салезіянскіх місіянераў у ваенны і пасляваенны перыяды ў справу ратавання і адраджэння каталіцкай веры ў краіне.




Аўтар сабраў факты з ужо вядомых даследаванняў, дапаўняючы іх новай інфармацыяй і сведчаннямі. У 1921 годзе ў Дварэц прыязджае першы салезіянін – кс. Людвік Гастыля, а ў 1991 годзе кс. Юзаф Занеўскі SDB заканчвае справу адраджэння кангрэгацыі ў БССР.

У працы кс. Артур рэканструяваў палітычную і рэлігійную атмасферу, якая панавала на беларускіх землях у кожны з трох вышэй пералічаных перыядаў з мэтаю больш зразумець асяроддзе, адносіны мясцовага насельніцтва і ідэалогію пасобных палітычных плыняў на гэтай тэрыторыі ў вызначаны прамежак часу.

Для дасягнення пастаўленых мэтаў былі зроблены запыты ў дзяржаўныя архівы ў Гродне, Мінску, Брэсце, Лідзе, Баранавічах і Вільні. Атрыманыя матэрыялы дапоўнілі шматлікія ўспаміны сабратоў, а таксама іх сведчанні, якія захоўваюцца ў архівах Таварыства св. Францішка Сальскага ў Варшаве і Кракаве. З мэтай збору інфармацыі і правядзення даследавання аўтар асабіста наведаў тыя мясцовасці Беларусі, дзе служылі салезіяне. Варта зазначыць, што Кургана і Рэгінава ўжо няма на карце Беларусі, а адсутнасць інфармацыі пра канкрэтнае месцазнаходжанне салезіянскіх дамоў стала прычынаю памылак у апісанні іх лакалізацыі ў ранейшых працах. Пасля некалькіх інтэрв'ю ў 2015 годзе святару ўдалося адшукаць месцы даўнейшага прабывання салезіянаў і ідэнтыфікаваць руіны (падмурак) касцёла пад тытулам св. Яна Боско ў Кургане, а таксама місіянерскай семінарыі ў Рэгінаве.

Новая кніга з'яўляецца добрым матэрыялам, каб даведацца не толькі пра салезіянаў на тэрыторыі нашай Айчыны, але і пра гісторыю Касцёла на нашай Бацькаўшчыне ў адпаведны перыяд. У працы сабраныя шматлікія дакументы і сведчанні пра мучаніцтва беларускага духавенства, якое, на жаль, усё больш забываецца сучаснікамі. Памяць пра асобаў, што засявалі зерне Евангелля і ратавалі яго ў нашай краіне, – наш святы абавязак!

**Набыць кнігу можна у салезіянскіх парафіях:**

- Св. Яна Хрысціцеля – Мінск (Серабранка);
- Маці Божай Успамогі Хрысціянаў – Бараўляны;
- Св. Міхала Арханёла – Смаргонь;
- Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі – Дзятлава;
- Святых Апосталаў Пятра і Паўла – Жупраны.

***Кс. Артур Ляшнеўскі SDB***

# Прихожанка самого молодого витебского католического прихода получила орден Матери

**Несхожесть характера, вероятно, только слабым дает повод разбежаться в разные стороны, а сильные и любящие люди учатся принимать друг друга без попытки исправить и подстроить под себя. В витебской семье Натальи и Сергея Буторович, где воспитываются пятеро детей, мама и папа заодно, а братья и сестры как одно целое, несмотря на разность взглядов, увлечений и даже конфессий. Пожалуй, именно осознание данного факта дает этой великолепной семерке незримую силу и уверенность в будущем. Наталья Буторович недавно удостоена ордена Матери. Она рассказала корреспонденту БЕЛТА, на каких прочных столпах стоит ее семья, чем увлекаются дети, кем она сама мечтала стать в детстве и как совместное времяпрепровождение вдали от интернета и привычных благ цивилизации становится настоящим праздником для всех домочадцев.**




Одна из важных составляющих благополучия и дружной атмосферы в большой семье – традиции, которые супруги копируют от своих родителей, или новые, созданные уже вместе. Это один из тех прочных растворов, которые скрепляют кирпичики будничных дел. Когда знаешь, что в конце рабочего и учебного дня, закончив с заботами, семья соберется за большим столом, чтобы поужинать вместе или скоротать вечер за совместной игрой, то ожидание маленького ежедневного чуда скрашивает время, проведенное вне родных стен. И точно так же весь год можно ждать праздника, объединяющего всех от мала до велика.

Два наиболее значимых после дней рождения детей события в доме Натальи и Сергея Буторович – это Рождество и Пасха. Многоконфессиональная семья, где супруг придерживается православия, а его жена и дети католицизма, отмечает эти церковные праздники с размахом. К Рождеству вся квартира превращается в волшебное царство. Окна и стены за месяц до торжества начинают украшать вытинанкой, перед этим совместно вырезая из бумаги невесомые фигурки. В каждой комнате появляется своя елка. В большой детской глава семьи устанавливает похожий на настоящий камин, который он сделал своими руками из пенопласта – с кирпичиками, ложем для рождественских свечей. Удобное решение для любого помещения: после праздника этот аксессуар отправляется на антресоль до следующего года.



Дом наполняется запахом выпечки и традиционных блюд. Семья встречает Рождество по всем католическим канонам – с сеном под скатертью, определенным набором блюд, посещением храма, подарками и, конечно, визитом к родным. Также на Пасху Наталья с детьми декорирует дом и готовит куличи.

Две конфессии под одной крышей уживаются очень мирно. "Муж до встречи со мной даже не был крещеным, но для меня это было важно, так как я считаю, что брак должен быть заключен не только официально в загсе, но и перед Богом. Это выбор спутника на всю жизнь. Единственное, на чем я не настаивала, это какая-то определенная конфессия. Сергей принял православие, потому что в его семье все в основном придерживались этой веры. После этого мы обвенчались. Я и дети – католики. Супруг ходит в церковь, причащается, по воскресеньям бывает на службах. В вопросе духовного воспитания сына и дочерей мы заодно", – отметила Наталья.

Еще одна важная часть жизни в большой семье – это совместные дела. "Я считаю, что в воспитании детей необходимо как можно больше времени проводить с ними. Прогулки, поездки – не обязательно далеко, дорого, главное, знать, что мы вместе. Это очень помогает сплотить всех, дать понять, что мы – единая семья, одно целое, пусть каждый и со своим особым, отличающимся от других внутренним миром", – поделилась витебчанка.

Одной из самых ярких семейных и любимых традиций стали турпоходы. Правда, с детьми, особенно маленькими, все ограничивается поездкой в кемпинг на Браславские озера, но и такой отдых помогает слиться с природой и насладиться красотой знаменитого белорусского туристического центра. Наталья и Сергей вместе со родственниками – братьями и сестрами – арендуют кемпинговую площадку. Все живут в палатках, катаются на катерах, купаются, готовят еду на открытом огне, устраивают вечерние посиделки у костра и наслаждаются тишиной вдали от суетного городского мира.

На мой вопрос, как дети относятся к отдыху почти дикарями, Наталья ответила, что для них подобное времяпрепровождение наполнено особенной романтикой. "Там нет интернета, никто не беспокоит звонками, потому что подзарядить гаджеты негде. Это такое неописуемое удовольствие! В этом году нам повезло с погодой. Бывали случаи, когда шли дожди, и то дети оставались довольными. Последнее наше посещение кемпинга так им понравилось, что они даже плакали, не хотели оттуда уезжать, поэтому, думаю, в следующий раз мы постараемся побыть в таком замечательном месте подольше", – женщина так живо описала все прелести отдыха на Браславщине, что лично мне захотелось бросить все, забыть моря и непременно отправиться на озерный курорт при первой же возможности.

Что касается такого большого состава семьи, то Наталья призналась, что обзаводиться пятью детишками она с супругом не планировала. И все же так дал Бог. Появление сразу двойни для молодой пары было непростым испытанием. Это и бессонные ночи, и трудности в уходе, но даже такие проблемы не заставили супругов отказаться от мысли о пополнении семьи. В какой-то степени они привыкли быть в окружении большой компании: у обоих в семьях было по трое детей. Вот и в своей Наталья и Сергей решили, что раз такой дар дан свыше, то на всех хватит места, пищи и тем более любви.

***Алеся Пушнякова, БЕЛТА***
*(печатается с сокращениями)*
***Александр Хитров,** фото*

# Націск у сучаснай беларускай мове

***(Працяг. Пачатак – у мінулым нумары)***

**У папярэднім нумары мы гаварылі пра некаторыя тэарэтычныя аспекты акцэнтуацыі (гэта значыць, правілы пастаноўкі націску), а таксама разгледзелі асобныя складаныя выпадкі ў выбары націскных варыянтаў у сучаснай беларускай мове. Нагадаем, што памылкі, звязаныя з няправільнай пастаноўкай націску, назіраюцца сярод розных часцін мовы: у назоўніках, прыметніках, лічэбніках, дзеясловах...**

У гэтым матэрыяле працягваем гаворку пра асаблівасці націску ў беларускай мове. Заўважым, што ёсць прынцыповыя адрозненні паміж беларускай і блізкароднаснай рускай мовамі ў плане акцэнтуацыі. Як вядома, у рускай мове націск часта перамяшчаецца на прыназоўнік, напрыклад: **зá город**, **зá полночь**, **зá руки**, **пóд руку**, **пóд гору**, **нá гору**. У беларускай жа мове прыназоўнік ніколі (і гэта неабходна запомніць!) не бывае пад націскам: **за гóрад**, **за пóўнач**, **за рýкі**, **пад рýкі**, **пад гарý**, **на гарý**. Гэта вельмі важна! І калі мы будзем памятаць пра названую вышэй рысу нашай мовы, то гэта дазволіць пазбегнуць прыкрых недакладнасцяў у маўленні.

І яшчэ адзін момант, які не заўсёды бярэцца пад увагу. Націск – найважнейшы чыннік правапісу. Калі вы няслушна паставілі націск, то і напісанне слова будзе няправільным. Скажам, па-беларуску вымаўляецца "**нянАвісць**" – з націскам на другім складзе, таму паводле правіла якання прыстаўка **не-** набывае форму **ня-**: *Нянавісць*. Калі ж паставіць націск на ўзор рускай мовы – на першы склад, то мы памылімся не толькі ў вымаўленні, але і ў напісанні: "*нЕнавісць*".

Больш за тое. Няправільная пастаноўка націску замінае ў камунікацыі, часам зацямняе сэнс выказвання. Падобныя праблемы назіраюцца ў тых выпадках, калі націск размяжоўвае лексічнае значэнне слоў. Г.зн., ад месца націску залежыць сэнс слова. Напрыклад: в**а**га і ваг**а**, к**а**ра і кар**а**, р**а**са і рас**а**, ст**а**лы (напрыклад, *сталы чалавек*) і стал**ы**, к**а**са і кас**а**, м**у**ка і мук**а**. Часам можа змяняцца сэнс усяго сказа, усёй сінтаксічнай канструкцыі. Мяркуем, што выразна бачная адчувальная розніца паміж наступнымі сказамі: "*Надвор'е цяпер добрае, і на сонцы грэюцца кат**ы***" і "*Надвор'е цяпер добрае, і на сонцы грэюцца к**а**ты*". Такія словы называюцца *графічнымі амонімамі* або *амографамі*. Іх ужыванне дае шмат прасторы не толькі для жартаў, але і для сур'ёзных непаразуменняў.

Разам з тым заўважым, што ў асобных выпадках адхіленні ад замацаванай нормы не варта ўспрымаць як парушэнне культуры маўлення. Прыгадаем тут усім вядомыя радкі Генадзя Бураўкіна:

*Гэта я з табой вечарую,*
***Туманамі** цябе я чарую.*
*Васількоў шапатліваю моваю*
*Зачароўваю, зачароўваю,*
*Закалыхваю я цябе.*

Паводле акцэнталагічных нормаў націск у словаформе **туманамі** прыпадае на другі склад. Але рытма-інтанацыйная арганізацыя верша патрабуе ўсё ж ставіць націск на канчатак, на перадапошні склад. У адваротным выпадку будзе парушана рытмічная зладжанасць радка, страфы. Падобную акалічнасць трэба мець на ўвазе, калі мы дэкламуем верш або спяваем песню. І, зразумела, такія выпадкі не могуць трактавацца як парушэнне літаратурнай нормы.

Падводзячы вынікі ўсяго сказанага, заўважым, што кожны адукаваны, культурны чалавек павінен прыгожа, дакладна, а самае галоўнае – правільна выказвацца. І да гэтага трэба імкнуцца, пастаянна ўдасканальваючы свае навыкі не толькі ў пісьмовай форме мовы, але і ў вуснай камунікацыі. Таму заўсёды варта памятаць пра важную ролю націску.

***Юрась Бабіч,***
*кандыдат філалагічных навук*

# “Адвэнт майго дзяцінства”...

## Успамінаюць святары

**У сённяшнім нумары святары дзеляцца з чытачамі “Каталіцкага Весніка” сваімі ўспамінамі і думкамі пра Адвэнт.**



**Ксёндз Алег Хмылко, служыць у парафіі Св. Андрэя Баболі ў Полацку:**

– Снежань, на які прыпадае Адвэнт, выклікае прыемныя і радасныя пачуцці, што адсылаюць мяне ў дзяцінства. Бо ў дзяцінстве падзеі, звязаныя з гэтым часам, перажываюцца па-іншаму, не так, як сёння, у дарослым жыцці. Прыгадваюцца дзве “акцыі”, каторыя паўтараліся з году ў год, але заўсёды былі радасныя, прыемныя і чаканыя. Адна звязаная з часам падрыхтоўкі, а другая – з тым, што адбывалася ўжо непасрэдна перад святамі.

На самым пачатку Адвэнту ў нашай парафіі пачынаўся “кастынг” актораў на “Батлейку”. Хто кім будзе, у каго колькі тэксту вучыць, якую адзежу трэба прыдумаць на пастаноўку... Апошняе заўсёды рабіла дадатковую праблему для бацькоў. І калі ролі былі размеркаваныя, то пачыналася падрыхтоўка, якая працягвалася ўвесь Адвэнт. Некалькі такіх вечаровых рэпетыцый у касцёле памятаю і цяпер. Гэта вельмі прыемныя ўспаміны.

Ад другой “акцыі” цякуць слінкі, бо яна звязаная з печывам, якое рабіла бабуля. За некалькі дзён да Божага Нараджэння замешвалася цеста і ставілася на печы, каб лепей падымалася. І мы з братам заўсёды туды лазілі і глядзелі, як падымаецца ручнік, каторым было прыкрытае цеста. Для нас гэта заўсёды было нейкім цудам. А пазней, ужо за дзень да свята, распачынаўся працэс выпечкі святочных булак і караваяў у печы. І мы дзяжурылі каля яе, каб хутчэй ухапіць гатовую булачку. І першае, і другое яднала нас вакол Божага Нараджэння і рабіла свята яшчэ больш яскравым. Дзякуючы “Батлейцы” дзеці і моладзь злучаліся вакол Хрыста ў адну вялікую сям'ю. А выпяканне булак збірала ўсю сям'ю вакол святочнага стала.

Жадаю ўсім чытачам “Каталіцкага Весніка” больш такіх сямейных момантаў, якія будуць дапамагаць радасна сустракаць Нараджэнне нашага Збаўцы!



**Айцец Павел Федаровіч MIC, служыць у Барысаўскай парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі:**

– У маёй роднай Лідскай парафіі Узвышэння Святога Крыжа раратняя Імша распачыналася а 6:30 раніцы. Паколькі я жыў вельмі блізка ад школы, у каторай вучыўся, то звычайна прачынаўся далёка пасля сёмай гадзіны. Адпаведна ў Адвэнце мне трэба было рана ўставаць. Таму першае, што згадваецца ў памяці пра Адвэнт, – вельмі ранні пад'ём а 5:30. Рараты адбываліся кожны дзень, я вельмі рэдка прапускаў. А пачаў хадзіць на іх дзесьці з трэцяга ці чацвёртага класа.

Добрым успамінам з'яўляецца момант падыходу да пад'езда сяброўкі дзяцінства а 6-ай гадзіне раніцы. Яна выглядвала ў акно, усміхалася, махала рукою і праз некалькі хвілін выходзіла. Мы разам ішлі на Рараты. Падчас дарогі размаўлялі паміж сабою, дзяліліся падзеямі мінулага дня, жартавалі. Гэтая традыцыя супольнай дарогі трывала на працягу некалькі гадоў, пакуль я не скончыў школу.

Вельмі добра памятаю працэсію на пачатку Імшы. Цемень у касцёле, спеў “Да Марыі быў пасланы Габрыэль, Арханёл слаўны” і асветленыя твары дзяцей і дарослых ад ліхтарыкаў, што яны неслі ў сваіх руках. Я любіў і зараз люблю гэты момант чакання, калі запальваюць святло. Гэта своеасаблівы час спадзявання на прыйсце Святла.

Хацелася б пажадаць Вам, дарагія браты і сёстры, каб Адвэнт сапраўды быў часам духоўнай падрыхтоўкі да прыйсця Збаўцы. Паколькі ўдваіх крыху лягчэй ісці разам па дарозе, жадаю знайсці чалавека ці супольнасць, з якімі б вы крочылі разам на шляху да Бога. І гэта, канешне ж, адносіцца не толькі да Адвэнта, але і да ўсяго хрысціянскага жыцця. Няхай Марыя, Беззаганна Зачатая, дапамагае кожнаму плённа перажыць Адвэнт 2021 года!



**Айцец Аркадзь Куляха OCD, служыць у Гудагайскай парафіі Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі:**

– Пах посных адвэнтавых страў, раратнія Імшы і падрыхтоўка да свята Божага Нараджэння – гэта галоўныя элементы Адвэнту майго дзяцінства. Засталіся мне ў памяці Андрэйкі. Ды не толькі таму, што суседа звалі Андрэй і нас, дзяцей, запрашалі на імяніны ды частавалі смачнымі ласункамі. У гэты дзень, мне здавалася, усе бавіліся. Быў нейкі радасны шум, іграла музыка, танчылі. Трэба было весяліцца, каб пазней з павагай і ў роздуме перажыць Адвэнт. З бацькамі ў кожную нядзелю мы хадзілі ў касцёл, пехатою чатыры кіламетры!

Маю цёцю звалі Барбара. 4 снежня хадзілі да яе на імяніны. Адвэнт – гэта таксама Дзень Святога Мікалая. Колькі клопату было ў малога дзіцяці, каб спадабацца святому Мікалаю... Я яго ніколі не бачыў, аднак кожны год 6 снежня ўначы ён прыносіў мне падарункі... Раніцаю бацькі тлумачылі, што Святы Мікалай не хацеў мяне будзіць, а я моцна верыў, што гэта праўда.

Са святаў, якія адзначаліся ў Адвэнце ў нашай сям'і, памятаю Беззаганнае Зачацце. У касцёл у гэты дзень хадзіў з мамай да сёмай гадзіны раніцы, каб пазней паспець у школу. У маёй парафіі Рараты не ладзіліся для дзяцей, але трэба было прынамсі некалькі разоў быць на іх.

Вечарамі жанчыны хадзілі ад хаты да хаты і скубалі пер'е. Пры тым весела спявалі і распавядалі розныя цікавыя гісторыі. Я любіў хадзіць з мамай і слухаць... У Адвэнце пасцілі ў сераду, пятніцу і ў суботу. Ежа была смачная, але без мяса. Якімі ж тады былі смачнымі бульба з кіслым малаком або смажаная рыба!..

Бліжэй да святаў Божага Нараджэння рыхтавалі цацкі на елку. Ад пачатку Адвэнту дзеці збіралі добрыя ўчынкі. Іх сімвалам былі саломінкі сена. У хаце стваралі спецыяльны дамашні алтарык. Туды і складалі сена для Езуса, Які народзіцца ў стаенцы. Памятаю, як з сястрой і стрыечнымі братамі трохі хлусілі, каб як найхутчэй падрыхтаваць ясельні. Бацькі амаль заўсёды выяўлялі нашу дзіцячую хітрасць, тлумачачы, што Бог усё бачыць. На занятках рэлігіі ў Адвэнце рыхтавалі сцэнку на Божае Нараджэнне.

Адвэнт майго дзяцінства – гэта прыгожая школа жыцця і веры, у якой я даведаўся, што Хрыстос, Сын Божы, так палюбіў кожнага чалавека, што захацеў сысці з неба, каб мы маглі туды трапіць. Чытачам “Каталіцкага Весніка” жадаю перажыць час Адвэнту ў атмасферы малітвы, разважанняў і еднасці з Богам!



**Ксёндз Антоні Грэмза – рэктар гродзенскага касцёла Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі, душпастыр моладзі:**

– Мой Адвэнт з дзяцінства – гэта час чакання чагосьці цёплага і таямнічага. Для мяне, як для дзіцяці, было вельмі важным прадчуванне вігілійнай вячэры. Я моцна чакаў, калі будзем у сям'і за адным сталом дзяліцца аплаткам. З цягам часу пачаў разумець, што Адвэнт для мяне – гэта магчымасць зноў аднавіць сваё адзінства з Езусам і іншымі людзьмі. А сімволіка Адвэнту дапамагае лепш зразумець, што без Бога нічога добрага не магчыма зрабіць. Мы таксама патрэбныя адно аднаму, бо ўсе з'яўляемся адзінай сям'ёй Божых дзяцей.

Жадаю ўсім чытачам “Каталіцкага Весніка” духоўна аднавіцца падчас сёлетняга Адвэнту, а таксама аднавіць нанова свае сувязі любові з іншымі людзьмі, каб адчуваць, што мы адзіная сям'я Божых дзяцей, што ўсе мы браты і сёстры ў Хрысце!



**Ксёндз Аляксей Асон – пробашч парафіі ў Новым Пагосце і Барадзінічах:**

– У дзяцінстве для мяне Адвэнт заўсёды быў прадвеснікам Свята. Можа, я не вельмі разумеў і перажываў сэнс гэтага перыяду. Аднак адчуванне таго, што на Каляды здарыцца нешта добрае, было вельмі моцным, хоць нават часам і не сфармуляваным. Лістапад і снежань – месяцы не вельмі ўтульныя. Таму ўжо само па сабе чаканне з рознымі штодзённымі жэстамі і малітвай перамяняла гэты час. А калі гэта чаканне заканчвалася Божым Нараджэннем і я бачыў Дзіцятка Езуса ў яслях і ксяндза Вітальда Малея, які Яго адараваў, з'яўлялася ўпэўненасць, што Пан Бог прыйшоў на свет і кіруе гэтым светам. Ён робіць гэта менавіта для нас, людзей.

Вядома, што калі б мяне спыталіся пра Адвэнт у дзяцінстве, то я б не змог больш-менш дакладна выказаць усё гэта. З гадамі падчас фармацыі ў семінарыі і ў душпастырскай працы я зразумеў, што гэтыя адчуванні і думкі сталі аднымі з многіх цаглінак, на якіх Бог узрасціў маё пакліканне да службы Яму.

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

## На снежань прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**6 снежня – імяніны** адзначаюць **кс. Мікалай Ліпскі** *(Новалукомль)*, **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*;

**7 снежня – гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Аляксандр Чайкоўскі** *(Наваполацк)*;

**8 снежня – гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Данііл Мысленцаў** *(Крым)*;

**11 снежня – дзень нараджэння** адзначае **кс. Раман Мурзіч** *(Орша)*, **імяніны адзначаюць а. Вальдэмар Куява OFMconv** *(Удзела)*, **кс. Данііл Мысленцаў** *(Крым)*;

**14 снежня – імяніны** адзначае **кс. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*;

**16 снежня – дзень нараджэння** адзначае **кс. Віталь Галец** *(Ушачы)*;

**17 снежня – гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **а. Аляксандр Шаўцоў** *(Полацк)*;

**24 снежня – дзень нараджэння** адзначае **кс. Данііл Мысленцаў** *(Крым)*;

**27 снежня – дзень нараджэння** адзначае **а. Віталь Бандаронак OFMCap** *(Докшыцы)*.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Арфеева***



Каталіцкі ВЕСНІК №11 (128) лістапад 2021 г.

# Як манахіня з Бабруйска стала місіянеркай у Камеруне

**Два месяцы на місіях у Афрыцы знаходзіцца сястра-дамініканка Максімільяна, якая паходзіць з Бабруйска. Манахіня падзялілася з "Каталіцкім Веснікам" сваімі думкамі і распавяла пра жыццё ў Камеруне.**



**– Сястра, як Вы апынуліся ў Афрыцы?**

– У Афрыцы я апынулася па ўласным жаданні. У нашым ордэне няма такога абавязковага служэння сясцёр недзе ў місійных далёкіх краінах. Павінна быць асабістае жаданне самой манахіні. Я дзесьці каля дзесяці гадоў таму першы раз спытала, ці магчыма, каб сястра з Беларусі паехала на місіі за мяжу. Аднак на самым пачатку манаскага служэння, калі праходзіла фармацыя, гэта было складана ажыццявіць.

**– Чаму Камерун?**

– У Камеруне ўжо працавалі і працуюць нашы сёстры-дамініканкі. Тут у нас чатыры кляштары, дзе служаць манахіні. Таму гэта бралася за аснову. Пасля таго, як у Камерун прыбылі першыя сёстры, доўгі час на дапамогу больш ніхто не прыязджаў. Не было асаблівай падтрымкі. Я часта чула, што сёстрам у Афрыцы неабходная дапамога. Таму хацелася хутчэй туды паехаць.

**– Вы толькі два месяцы ў Афрыцы. Хацелася б даведацца, з чым адразу давялося сутыкнуцца пасля прыезду ў Камерун і якімі былі першыя думкі?**

– Пасля прылёту сюды я адчула нейкі новы і незнаёмы пах... Аднак такога глабальнага шоку я не перажыла. Цяжкасці крыху ўзніклі ў перыяд адаптацыі. Афрыка – зусім іншы кантынент, таму на целе і псіхіцы гэта адчувалася таксама. Складана апісаць... Адчуваеш сябе не вельмі добра ў фізічным плане, але немагчыма зразумець да канца, што здарылася. Тады сёстры мне сказалі, што так праходзіць адаптацыя. Таксама толькі прыляцеўшы сюды, я зразумела, як далёка знаходжуся ад Беларусі.

Я ехала з такім падыходам, што прыму ўсё тое, што пабачу. Стараюся прымаць незвычайныя для мяне рэчы з разуменнем таго, што тут яны так функцыянуюць. Напрыклад, зараз мяне здзіўляе адсутнасць правіл дарожнага руху. Я не магу да гэтага прызвычаіцца. Здзіўляе, колькі чалавек можа змясціцца на маленькім мапедзе. Можа, шэсць ці восем, а яшчэ шмат розных сумак. А ў машыне можа змясціцца нават шаснаццаць чалавек. Аказваецца, у багажніку можа ехаць шэсць асобаў, усе такія радасныя і шчаслівыя некуды накіроўваюцца.

**– Раскажыце крыху пра рэгіён, у якім Вы служыце?**

– Я служу ў горадзе Гаруа-Булаі, які знаходзіцца на мяжы з Цэнтральнай Афрыкай, дзе зараз працягваецца вайна. На дадзены момант сітуацыя там больш стабільная. Побач ёсць ваенныя блокі, якія нас абараняюць.

Знаходзячыся тут, я заўсёды забываю, што Гаруа-Булаі – гэта горад. Хутчэй, можна параўнаць з вёскай, бо тут няма нават шматпавярховікаў. Дзевяноста пяць працэнтаў мясцовага насельніцтва – мусульмане. Астатнія ў асноўным хрысціяне. На тэрыторыі нашай парафіі ёсць некалькі каталіцкіх капліц, касцёл зараз будуецца. У нядзелю адпраўляюцца тры святыя Імшы. Парафія мае свайго пробашча і вікарыя ўжо з мясцовых пакліканняў. Ёсць святар, які займаецца каталіцкім каледжам. Ён таксама часта дапамагае пры парафіі па неабходнасці. Фактычна па ўсіх вёсках, у якія мы даязджаем, ёсць каталіцкія або пратэстанцкія каплічкі. Гэта залежыць ад таго, якія місіянеры першымі прыехалі ў гэту мясцовасць. Першымі, хто прыбыў у Камерун, былі пратэстанты. Таму ёсць вёскі, якія цалкам пратэстанцкія. У асноўным мы наведваем тыя месцы, дзе змешанае веравызнанне. Таксама амаль у кожнай вёсцы ёсць мячэці.

**– Як выглядае Ваш звычайны дзень?**

– На дадзены момант я ўваходжу ў пэўны рытм і дапамагаю сёстрам у іх служэнні. Прачынаемся рана. А 5.20 ужо пачынаецца медытацыя. Потым мы едзем на Імшу. Перад ёй разам з парафіяй і пробашчам молімся "Ютрань". Пасля Імшы мы вяртаемся ў кляштар на сняданне. Потым я іду ў наш дыспансер і знаходжуся там з восьмай да дванаццатай. Сюды прыходзяць хворыя, іх абследуюць. Я дапамагаю людзям з прыёмам пэўных лекаў, падрыхтоўваю крапельніцы. Штодня тут каля двухсот хворых. Пасля абеду і невялікага перапынку я дапамагаю сястры з дзецьмі, якія ўдзельнічаюць у праграме "Усынаўленне на адлегласці". У асноўным гэта польскія сем'і, якія згадзіліся дапамагаць фінансамі пэўнаму дзіцяці ў Афрыцы. Часцей за ўсё тым, хто з няпоўных сем'яў або сіротам. Замежныя сем'і аплачваюць ім школу, бо яна ў Афрыцы дарагая, а бясплатнага навучання тут няма. Тых, хто да нас прыходзіць, мы кормім, гуляем з імі. У нас ёсць пляцоўка, якую дзеці вельмі любяць. Таксама стараемся, каб яны ўсебакова развіваліся. Сюды прыходзяць не толькі католікі, але і пратэстанты, і мусульмане. Калі мы разам з імі молімся, узнікаюць пэўныя цяжкасці праз мусульман, таму што яны не могуць маліцца разам з намі. Па гэтай прычыне стараемся іх раней адпусціць дамоў, хоць яны і не хочуць сыходзіць. Дзеці ў нас знаходзяцца прыкладна да 17.00. Потым мы ідзём на малітву і вячэру, пазней – на адарацыю і "Камплету" – апошнюю малітву дня.

Мяне ўразіла тут тое, што план малітвы ў сясцёр ніяк не змяняецца і ўсе яго выконваюць, нягледзячы на тое, што ў кожнай з нас вельмі розныя віды дзейнасці, складаныя і актыўныя. Мне гэта вельмі дапамагае.

**– Якія каштоўнасці для мясцовых жыхароў найбольш важныя?**

– Для мясцовых каштоўнасцю з'яўляецца адукацыя, але вельмі вялікая колькасць людзей тут яе не мае. Шмат дзяцей і дарослых не ўмее чытаць, яны не могуць напісаць нават сваё імя, не ведаюць алфавіта. Не маюць простага разумення таго, которая зараз гадзіна. Ведаюць проста, што зараз ранак або вечар.

Калі чалавеку ўдаецца атрымаць адукацыю, то гэта вялікі поспех. Бывае такое, што дзіця своечасова нічому не навучылі. Калі пачынаеш праходзіць, напрыклад, літары з малымі дзецьмі, старэйшыя часта не могуць справіцца з вялікім аб'ёмам інфармацыі, за што іх выдаляюць са школы. Выдаляюць і за дрэнныя паводзіны, і з та тое, што не здаюць канчатковыя экзамены.

Велізарнай каштоўнасцю для камерунцаў з'яўляецца сям'я, дзеці. Аднак разуменне таго, што ў цябе адзін муж ці адна жонка, няма. Сакрамант сужэнства ўвогуле рэдкая з'ява для Камеруна. У год бывае да трох шлюбаў. Пары вельмі баяцца гэтага сакрамента, бо яны ўвогуле не ўпэўненыя, што будуць разам усё жыццё, часта мяняюцца партнёрамі. Тыя ж, хто бярэ шлюб, гэта пары ад сарака да шасцідзесяці гадоў. Бывае, што ёсць сям'я, а мама пакідае ноччу дом і больш не вяртаецца. Шасцёра дзяцей застаюцца з татам. Такіх сітуацый, на жаль, вельмі шмат.

Вялікае значэнне мае праца, але не ўсе імкнуцца яе знайсці. Мы дапамагаем дзяўчатам скончыць курсы шыцця. Часам яны працуюць у нас пры манастыры, збіраючы пэўную суму сабе на машынку, каб потым зарабляць на жыццё. Шыццё тут вельмі запатрабаванае. Хлопчыкаў мы адпраўляем на курсы электрыкі і будаўніцтва.

Людзі тут вельмі пабожныя. Аднак разам з тым у іх засталася вялікая вера ў тое, што пакінулі іх продкі. Фактычна ў кожнай мясцовасці ёсць вядзьмак, да якога рэгулярна прыходзяць людзі, сярод якіх таксама і нашы вернікі-парафіяне.

**– А што з голадам і нястачай?**

– Тыя бедныя дзеці, якімі займаемся мы, ядуць у лепшым выпадку раз на дзень – увечары. Гэта адбываецца, калі родныя знайшлі штосьці, каб іх накарміць. Адна справа – паглядзець на голад і нястачу на малюнках у інтэрнэце. І зусім па-іншаму гэта адчуваеш, калі ідзеш побач з гэтымі бруднымі дзецьмі ў парваным адзенні, калі яно ўвогуле ёсць. Бацькі дзяцей асабліва не даглядаюць. Рэдка здараецца, што маці рэгулярна мые сваё дзіця, і яно выглядае ахайна. Калі ж няма маці, мала хто клапоціцца пра такіх сірот. Часам суседзі могуць даглядзець дзіця, але такое здараецца рэдка.

Распавяду адну гісторыю. У сям'і нарадзілася немаўля, шостае ці сёмае па ліку. А бацькі не мелі працы, не было чым карміць дзяўчынку. У маці прапала малако. Дзіця доўга ляжала без ежы і магло памерці з голаду, было моцнае абязводжванне. Наша сястра выпадкова яго знайшла. Немаўля, дзякуй Богу, выратавалі.

Таксама вельмі балюча глядзець на дзяцей, у якіх ад голаду ўздутыя жываты і свецяцца рэбры.

**– Якія сёстры служаць разам з Вамі?**

– Усяго ў Гаруа-Булаі пяць сясцёр. Дзве нашыя сястры працуюць у дыспансеры. Адна сястра з Польшчы ў Афрыцы ўжо дваццаць шэсць гадоў. Другая сястра, камерунка, у кляштары служыць ужо шаснаццаць гадоў. "Усынаўленнем на адлегласці" займаецца таксама яшчэ адна сястра – Рахэль з Польшчы. Яна ездзіць ва ўсе суседнія вёскі і праводзіць там катэхезы. Я ёй стараюся дапамагаць. Яе дзейнасць вельмі разнастайная. Часта цяжка запланаваць дзень, бо раніцай заўсёды штосьці адбываецца: хтосьці папрасіў тэрмінова дапамагчы, недзе хтосьці паміраe, а хуткай дапамогі няма і гэтак далей...

Напрыклад, аднойчы здарылася наступная гісторыя. Прыбягаюць дзве дзяўчынкі ў слязах, гаворачы, што не вернуцца дамоў. Аказваецца, яны ўцекачы з Цэнтральнай Афрыкі. Іх маці займаецца прастытуцыяй, а яны баяцца вяртацца, бо мама стала прыводзіць кліентаў дамоў, дзе таксама яшчэ жывуць маленькія дзеці. Гэтыя дзяўчынкі прасілі сястру Рахэль, каб яна паехала з імі і пагаварыла з мамай. Сітуацыя складаная, але праз некаторы час мы знайшлі ім альтэрна-







тыву. На дадзены момант маці ўжо не займаецца прастытуцыяй, яна цырульнік. Старэйшыя дзяўчынкі пайшлі ў школу, малодшыя таксама. Але, каб гэта сітуацыя вырашылася, неабходна было прыкласці шмат намаганняў. І такіх гісторый можна пералічыць вельмі шмат.

Ёсць яшчэ адна сястра-настаяцельніца, якая доўгі час працавала ў Камеруне ўрачом-стаматолагам. Яна ўжо на пенсіі і гатуе ежу ў нашым кляштары, што вельмі палягчае наша функцыянаванне. Таксама яна шые розныя неабходныя рэчы, напрыклад, нам хабіты.

**– Цікава, а што з мясцовымі пакліканнямі?**

– На дадзены момант у нашым дамініканскім кляштары ёсць дзве манахіні з Камеруна, якія склалі вечныя шлюбы. І адна сястра-камерунка, якая зараз праходзіць фармацыю ў пастулаце. Пакліканняў не шмат, бо сем'і не хочуць, каб дзяўчаты ішлі ў манастыр. Бацькі прапаноўваюць адразу нарадзіць дзіця, а потым станавіцца манахіняй. Аднак такое ў нас немагчыма. У Афрыцы ж лічыцца, што кожная жанчына павінна нарадзіць дзіця. Яны нават лічаць, што калі мы выязджаем дзесьці на канікулы, то едзем, каб нарадзіць дзіця. Нават калі мы адсутнічаем толькі месяц. Ім цяжка зразумець сутнасць пакліканняу і жыцця ў кляштары. Цікава, што ў франкамоўнай частцы Камеруна пакліканняў менш, чым у англамоўнай. Але ў афрыканскіх семінарыях і ордэнах праблем з пакліканнем няма. Мы ж з'яўляемся польскай кангрэгацыяй, таму ёсць пэўныя пытанні. Можа, нават таму, што мы "белыя". Тут да белых таксама свой падыход: гаспадар – раб. Яны так лічаць, мы ж так не думаем. І пакуль гэтыя межы не знікнуць, будуць пэўныя цяжкасці.

**– Хутка Каталіцкі Касцёл распачынае Адвэнт. Як у Камеруне праходзіць гэты час?**

– У Камеруне няма Рататаў – адмысловай святой Імшы ў перыяд Адвэнту. І калі мы падрыхтоўваем дзяцей да Божага Нараджэння, то не робім акцэнту на тым, што дзеці павінны ад чагосьці адмовіцца. Бо ў большасці няма ад чаго адмаўляцца, тут часта няма нават самага неабходнага для жыцця. У часе Адвэнту асаблівую ўвагу звяртаем на тое, каб вернікі рабілі нейкія добрыя ўчынкі і дапамагалі бліжнім.

*Гутарыла*
***Ірына Радзевіч***

# Абраз святога Губерта ў Лепелі

**У касцёле св. Казіміра ў Лепелі з'явіўся абраз святога Губерта. Выява выкананая ўкраінскім майстрам з буку, рамка абраза зробленая з дубу. "Каталіцкі Веснік" запытаўся ў пробашча парафіі кс. Уладзіміра Заянчкоўскага пра гісторыю з'яўлення гэтага абраза ў касцёле.**

— Мы ўсе добра ведаем, што св. Губерт – заступнік паляўнічых і леснікоў. Я сам з'яўляюся паляўнічым, – кажа кс. Уладзімір. – Падчас сустрэч з аматарамі палявання стараюся папулярызаваць малітву да св. Губерта. Заўважаю, што многім паляўнічым падабаецца такая ініцыятыва. Паляванне – гэта ж справа сур'ёзная. Аднак няправільна думаць, што малітва да св. Губерта – гэта нейкае заклінанне, каб дабыць звера. Абсалютна не так. Мы молімся на паляванні з просьбай, каб св. Губерт захаваў нас ад усялякай небяспекі. Гэта асноўная ідэя малітвы.

Цікава, што абраз св. Губерта для лепельскага касцёла асвяціў біскуп Юзаф Станеўскі яшчэ да свайго прызначэння на Мінскую катэдру.

Кс. Уладзімір Заянчкоўскі распавядае, што атрымлівае шмат званкоў ад паляўнічых з запытаннямі, ці будзе сёлета нейкі малітоўны сход. На вялікі жаль, ва ўмовах пандэміі арганізаваць штосьці такое даволі складана. Таму святар заахвочвае здзяйсняць прыватныя пілігрымкі ў лепельскі касцёл, каб памаліцца перад абразом св. Губерта. Калі палепшыцца эпідэміялагічная сітуацыя, у планах ёсць рабіць перэгрынацыю абраза па ўсёй Беларусі, дзе будуць арганізоўвацца сустрэчы паляўнічых.

Варта дадаць, што ў Каталіцкім Касцёле ўспамін св. Губерта прыпадае на 3 лістапада. Усе зацікаўленыя ў пілігрымцы да абраза св. Губерта ў Лепелі могуць патэлефанаваць кс. Уладзіміру па тэлефоне: +37529 266-46-22.

***Кс. Віктар Місевіч**, тэкст*
*Фота з прыватнага архіва **кс. Уладзіміра Заянчкоўскага***




***Малітва да св. Губерта***

*Святы Губерце, апякуне паляўнічых і леснікоў, вазьмі мяне пад сваю апеку! Сваім магутным заступніцтвам перад Богам падтрымай мяне ва ўсіх маіх патрэбах і выпрасі для мяне ласку наследавання тваіх цнотаў. Захавай мяне ад дрэнных схільнасцяў, ад пыхі і пажадлівасці, ад нанясення шкоды людзям і прыродзе, ад парушэння закону, адсутнасці пашаны да Божых дароў і ласкаў. Кіруй маім розумам, зрокам і ўчынкамі, каб я выканаў свае заданні згодна з законам Стваральніка. Сцеражы мяне ад злых прыгодаў і давядзі да вечнага збаўлення!*
*Амэн.*

# Узрост у Бібліі

**Новы тэст "Каталіцкага Весніка" дапаможа Вам прыгадаць такія дэталі з Бібліі, на якія раней Вы, магчыма, не звярталі ўвагі.**

**А што наконт узросту біблійных постацяў? Праверце свае веды, прайдзіце тэст!**

**1 Колькі гадоў пражыў першы чалавек – Адам?**



**А.** 94
**Б.** 365
**В.** 930

**2 Хто з сыноў Адама і Евы пражыў 912 гадоў?**



**А.** Каін
**Б.** Абэль
**В.** Сіф

**3 Найстарэйшы чалавек, чый узрост паказаны ў Бібліі?**



**А.** Адам
**Б.** Абрагам
**В.** Мафусал

**4 Колькі гадоў пражыў праведны Ной?**



**А.** 840
**Б.** 950
**В.** 1054

**5 На колькі гадоў Аарон быў старэйшы за свайго брата Майсея?**



**А.** На 3 гады
**Б.** На 15 гадоў
**В.** На 30 год

**Правільныя адказы на віктарыну: старонка 16**

**6 Колькі гадоў было прарочыцы Ганне, калі Дзіцятка Езуса прынеслі ў Ерусалімскі храм?**



**А.** 75
**Б.** 84
**В.** 89

**7 Колькі гадоў было Езусу Хрысту, калі Юзаф і Марыя, вяртаючыся з Ерусаліма ў Назарэт пасля свята Пасхі, убачылі, што Яго няма разам з імі?**



**А.** 10
**Б.** 12
**В.** 13

**8 Колькі гадоў было Езусу Хрысту, калі Ён пачынаў сваё служэнне?**



**А.** 30
**Б.** 31
**В.** 33

**9 Колькі гадоў было дзяўчыне, якую ўваскрасіў Езус, сказаўшы "Таліта кум"?**



**А.** Каля 8
**Б.** Каля 12
**В.** Каля 14

**10 Немаўлят якога ўзросту загадаў забіць цар Ірад?**



**А.** Ад года і менш
**Б.** Ад двух гадоў і менш
**В.** Ад чатырох гадоў і менш

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Арфеева***

# Жырафа ў біскупскім гербе? Гэта магчыма ў Ганконгу!

**Біскуп-намінант Стывен Чоу Сау-ян, былы правінцыял кітайскай езуіцкай правінцыі, прыме біскупскае пасвячэнне 4 снежня ў саборы Беззаганнага Зачацця. На яго біскупскім гербе будзе жырафа.**




Абраны біскупам новы герб, напэўна, не спадабаецца геральдыстам. Ён істотна адрозніваецца ад класічных узораў. Самы нечаканы элемент – гэта, безумоўна, жырафа, галава якой выступае за абрысы шчыта.

Кожны элемент герба, аднак, мае сваю сімволіку, якую тлумачыць сам біскуп-намінант. Доўгая шыя сімвалізуе здольнасць бачыць шырокую карціну. "Недальнабачнасць можа выклікаць у чалавека страх. Бачанне можа дапамагчы вам аднавіць самавалоданне", – сказаў ён Sunday Examiner. Чоу таксама адзначыў, што жырафы, як вядома, маюць вялікае сэрца, каб напампаваць дастаткова крыві да галавы, і таму іх можна лічыць сімвалам шчодрасці. Сэрца жырафы можа важыць да 25 фунтаў і мае тоўсты левы страўнічак.

Святар, які раней выкладаў у каледжы Ван Янь, сказаў, што ідэяй жырафы як сімвала шчодрага сэрца і шырокай перспектывы ён падзяліўся са сваімі студэнтамі. "Я атрымаў ад студэнтаў некалькі фотаздымкаў жырафаў, і яны былі выстаўленыя ў маім офісе ў каледжы Ван Янь", – сказаў ён.

Акрамя жырафы, на шчыце Чоу таксама прадстаўлены традыцыйныя хрысціянскія вывы, у тым ліку голуб, біблійны сімвал Святога Духа, і сонца з манаграмай IHS, якая абазначае імя Хрыста, што з'яўляецца сімвалам ордэна езуітаў. Гэты сімвал ёсць і на біскупскім гербе Папы Францішка. Іншым элементам ідэнтычнасці езуітаў выступае дэвіз біскупа Чоу "Ad Majorem Dei Gloriam" ("Для большай славы Божай").

У цэнтры шчыта размешчаны рознакаляровы кельцкі вузел, які, на думку дыяцэзіі, з'яўляецца сімвалам "адзінства ў множнасці". Пад развязкай знаходзіцца чырвоны падвесны мост, а дакладней, мост Цын-Ма ў Ганконгу. Чоу апісаў уключэнне моста як сімвал місіі Касцёла па стварэнні моста для розных бакоў, каб сабраць разам. "Сам мост ёсць для таго, каб па ім хадзіць. Без людзей мост больш не карысны", – сказаў ён.

У каментарыі Asia News падкрэсліваецца выбар моста Цын-Ма ў параўнанні са знакамітым мостам Ганконг-Чжухай-Макао, самым доўгім у свеце міжмарскім мостам, які быў пабудаваны ў перыяд з 2009 па 2018 гг для злучэння Ганконга і Макао з мацерыковым Кітаем. Мост Цын-Ма, з іншага боку, злучае дзве выспы ў межах самой тэрыторыі Ганконга. У Asia News выказаная здагадка, што гэта можа азначаць "навядзенне мастоў" ва ўнутраных падраздзяленнях Ганконга.

Як і астатнія жыхары Ганконга, каталіцкая супольнасць горада сутыкнулася з праблемамі і падзелам пасля падаўлення ўрадам пратэстаў у падтрымку дэмакратыі ў сувязі са спрэчным законам аб экстрадыцыі 2019 года і супраць рашэння мясцовага ўрада прасунуць Закон аб нацыянальнай бяспецы 2020 года. Чоу заявіў у прэс-рэлізе канферэнцыі на наступны дзень пасля вылучэння ў маі мінулага года: "Слуханне і суперажыванне" вельмі важныя для вылечвання падзелаў", дадаўшы, што "адзінства не тое ж самае, што аднастайнасць". "У мяне няма вялікага плана, каб прынесці вам адзінства, але я веру, што Бог ёсць, і Ён хоча, каб мы былі адзіныя", – сказаў Чоу.

Традыцыя мець герб каталіцкімі біскупамі і папамі ўзыходзіць да геральдычнай традыцыі Сярэднявечча. Кожны шчыт, за выключэннем папскага, увянчаны над крыжам капелюшом і махрамі – зялёнай для біскупаў і чырвонай для кардыналаў, а пад шчытом размешчаны скрутак з дэвізам біскупа.

*Па матэрыялах opoka.news*
*Пераклад* ***Марыны Сінкевіч***

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Валянціна Пятрова** *(Мёры)*, **парафіяне з Ваўкалатаў, Гертруда Блышко** *(Глыбокае)*, **Елізавета Барткевіч** *(Слабодка)*, **Валянціна Лучына** *(Слабодка)*, **Марыя Угарэнка** *(Слабодка)*, **Даната Далецкая** *(Слабодка)*, **Люцыя Арсюкова** *(Слабодка)*, **Яніна Вільчынская** *(Слабодка)*, **Стэфанія Глод** *(Слабодка)*, **Гэлена Качаноўская** *(Слабодка)*, **Вера Дундзер** *(Слабодка)*, **Ганна Ермалёнак** *(Слабодка)*, **Тэрэза Ганчаронак** *(Слабодка)*, **Аліна Гайдэль** *(Слабодка)*, **Яніна Хвецковіч** *(Слабодка)*, **Катажына Шакель** *(Спрынды)*, **Рэгіна Савіцкая** *(Гаўрылаўцы)*, **Ядвіга Барткевіч** *(Гаўрылаўцы)*, **Юзэфа Мількевіч** *(Веркаўшчына)*, **Тэрэза Стэльмачонак** *(Гавейкі)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Яўгенія Гунько** *(Барысаў)*, **Чэслаў Клімовіч** *(Мядзел)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Зенона Алекснін** *(Браслаў)*, **Юрый Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Казімір Буткевіч** *(Крапіўнікі)*, **Марыя Канецкая** *(Маладзечна)*, **Ірына Руткоўская** *(Радзюкі)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Алена Дзядова** *(Навагрудак)*, **Аніцэта Пілецкая** *(Навалукомль)*, **Ганна Анішкевіч** *(Паставы)*, **Таццяна Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Кадушкевіч Я.Ф.** *(Галбея)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Ванда Дзенісенка** *(Жыткавічы)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Людміла Буткевіч** *(Крапіўнікі)*, **Злата Грыневіч** *(Даўгінава)*, **Ірына Грыцкевіч** *(Сарокі)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **рух "Маргарытка" з Дзеркаўшчыны, Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Рэгіна Лазучэнка** *(Браслаў)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Альфрэда Меранкова** *(Ваўкі)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Юзэфа Малей** *(Сітцы)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Эмілія Стакла** *(Юльянова)*, **Аліна Бервячонак** *(Прусы)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Леакадзія Пазняк** *(Прусы)*, **Аліна Шакур** *(Вялікае Абаб'е)*, **Данута Ільіч** *(Яцкавічы)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Ада Шумская** *(Наваполацк)*, **Клемянціна Крымская** *(Наваполацк)*, **Соф'я Чэмка** *(Барок)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Ядвіга Розель** *(Ашмяны)*, **Леакадзія Кашчыц** *(Ашмяны)*, **Марыя Кавалеўская** *(Докшыцы)*, **Даната Варанько** *(Друя)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***



## Выстава "Рэпрэсаваная духоўнасць" адправіцца ў Польшчу

**6 лістапада ў Адэсе палітыкі, дзяржаўныя і грамадскія дзеячы, святары розных канфесій аб'ядналіся ў малітве за Украіну, паведамляе *Credo*. Адэская вобласць можа ганарыцца не толькі сваім міжканфесійным светам, паразуменнем розных канфесій, але і іх актыўным супрацоўніцтвам.**

Грамадская арганізацыя "Украіна – гэта я" перадала выставу "Рэпрэсаваная духоўнасць" у Генеральнае консульства Рэспублікі Польшча ў Адэсе. У будучыні плануецца адкрыць выставу ў розных гарадах Польшчы.

На выставе прадстаўленыя фотаздымкі гістарычных дакументаў, архіўныя матэрыялы з фондаў СБУ: біяграфічныя даведкі, аповеды пра рэпрэсаваных святароў і вернікаў, фотаздымкі пратаколаў допытаў і картак арыштаваных, пастановы, у тым ліку і пастанова Цэнтральнага выканаўчага камітэта аб аддзяленні царквы ад дзяржавы.

Мэта праекта – паказаць лёс канкрэтных людзей, якія пацярпелі за веру, падвергліся пераследу і не адракліся ад сваіх пераканнняў.

Выстава адкрылася ў Адэсе. Яна ўжо пабывала ў Кіеве, Львове, Драгобычы, Роўне.

## IV Дыяцэзіяльны конкурс на веданне Святога Пісання 2021

**"Карытас" Віцебскай дыяцэзіі з радасцю паведамляе, што распачынаецца падрыхтоўка да IV Дыяцэзіяльнага конкурсу на веданнне Святога Пісання 2021!**

Сардэчна запрашаем да ўдзелу дзяцей з каталіцкіх парафій Віцебскай дыяцэзіі, а таксама гасцей з Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі ў дзвюх узроставых катэгорыях: 1 катэгорыя – дзеці ад 9 да 11 гадоў уключна (могуць быць малодшыя); 2 катэгорыя – дзеці ад 12 да 14 гадоў уключна.

Асноўай конкурсных матэрыялаў у 2022 годзе будзе змест наступных кніг Бібліі: 1 Кніга Самуэля (1 Кніга Царстваў) са Старога Запавету; Апостальскія Пасланні Якуба, 1 Пятра, 2 Пятра, Юды з Новага Запавету (любое кананічнае выданне).

У сувязі з эпідэміялагічнай сітуацыяй дакладныя даты правядзення Конкурсу яшчэ не вызначаны. Правядзенне першага этапу запланаванае на канец лютага – пачатак сакавіка 2022 года.




Фармуляр заяўкі на ўдзел у Конкурсе, а таксама рэгламент і іншая патрэбная інфармацыя для дзяцей і катэхетаў будуць даступныя пазней, ужо ў 2022 годзе.

Пытанні, звязаныя з Конкурсам, можна накіраваць на паштовую скрыню vitebsk.caritas@gmail.com. Дыяцэзіяльны каардынатар – с. Дар'я Галубкова OV.

Адкрыем разам моц і прыгажосць Божага Слова!

### Пакой для малітвы

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.
Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне:
+ 375 29 78 51 298



*Катэхеза с. Дар'і Галубковай OV*

# Надышла часіна, каб любіць Касцёл

Заклік любіць Касцёл можа гучаць як правакацыя, асабліва ў сучасным свеце. Не толькі людзі, далёкія ад веры, але нават ахрышчаныя католікі і праваслаўныя, якія называюць сябе вернікамі, нярэдка пагарджаюць Касцёлам, яго супольнасцю і навучаннем, сцвярджаючы, што ім не патрэбныя пасярэднікі, каб яднацца з Богам. Як можна любіць Касцёл з усімі яго заганамі, "цёмным мінулым", недасканалымі духоўнымі асобамі і грэшнымі вернікамі? Адказ даволі просты: Касцёл можна любіць толькі тады, калі на яго глядзець вачыма сапраўднай веры.

### Касцёл – наша Маці

Вачыма веры

**"мы павінны глядзець на Касцёл не толькі як на рэлігійную арганізацыю з уласцівай ёй іерархіяй і структурай, але перадусім як на Маці."**

Чацвёртая Божая запаведзь "Шануй бацьку свайго і маці сваю", што гаворыць пра любоў, пашану і ўдзячнасць, якая належыць бацьку і маці, датычыць таксама і адносінаў да Маці-Касцёла. Як зямныя маці нараджаюць і выхоўваюць сваіх дзяцей, так і Касцёл, наша Маці, нараджае нас праз хрост і выхоўвае як дзяцей Божых, корміць Словам і Целам Пана, аздараўляе з дапамогай сакраманту пакаяння.

Святы біскуп Цыпрыян з Карфагена прыгадваў хрысціянам у часе праследу ў III стагоддзі, што "не можа мець Бога за Айца той, хто не мае Касцёл за Маці". Сапраўды, толькі ў той меры, у якой чалавек любіць Касцёл як Маці, мае ён Духа Пана. Нянавісць жа да Касцёла, як да духавенства, так і да свецкіх вернікаў, з'яўляецца адкіданнем Таго, з Чыёй волі ён паўстаў.

Катэхізіс навучае, што адносна Касцёла-Маці хрысціяне павінны мець сапраўдны сыноўскі дух, ў тым ліку ў стасунках да тых, хто кіруе Касцёлам (ККК 2040). Вернікі павінны з хрысціянскай паслухмянасцю выконваць пастанаўленні пастыраў, якія, будучы кіраўнікамі і настаўнікамі, прадстаўляюць самога Езуса Хрыста. Сыноўскі дух праяўляецца перадусім у вернасці і еднасці з Папам Рымскім, бачным галавой Касцёла і намеснікам Хрыста на зямлі, а таксама з біскупамі, якія застаюцца ў лучнасці са Святым Пасадам.

### Супольнасць веры і ласкі

У Касцёле мы чуем слова веры і адказваем на яго. Менавіта ён захоўвае і сцеражэ скарб веры, згодна з загадам Езуса Хрыста. Абвяшчаючы Слова Божае, Касцёл аб'яўляе хрысціянскай сям'і яе сапраўдную тоеснасць, тое, чым яна насамрэч з'яўляецца і чым павінна быць паводле Божай задумы. Сучаснае грамадства, аднак жа, прызнае ўсё менш аўтарытэтаў, а тым больш аўтарытэт Касцёла, які не заўсёды гаворыць тое, што большасці хацелася б пачуць. Навучанне Касцёла для многіх з'яўляецца "цяжкай мовай", падобна як прамова Езуса ў сінагозе ў Кафарнауме, пасля якой "многія вучні Ягоныя адышлі ад Яго і ўжо не хадзілі з Ім" (Ян 6,60.66). Тым не менш, Езус не пабег за імі і не абяцаў, што залагодзіць свае вымаганні.

У Касцёле хрысціянская сям'я таксама ўзмацняецца і ўзбагачаецца ласкай Хрыста: дзякуючы ўдзелу ў Святой Імшы і іншых сакрамантах, наследуючы святых і блаславлёных, дзеці Касцёла крочаць да Божага Валадарства. Таму той, хто адмаўляецца ад пасярэдніцтва Касцёла, крыўдзіць самога сябе, пазбаўляючыся ад багацця Божых ласкаў і пэўнага шляху да збаўлення.

### Знак Хрыста ў свеце

Касцёл, наша Маці, не з'яўляецца выключна "зямной" арганізацыяй. Тым не менш, ён існуе ў свеце і з'яўляецца ў ім знакам Хрыста, а таксама стаіць на варце годнасці чалавечай асобы і духоўных каштоўнасцяў. Касцёл шануе грамадскія і палітычныя погляды чалавека, аднак у той жа час чакае ад грамадскай супольнасці пашаны да чалавека, каб у сваіх рашэннях і прысудах улада абапіралася на праўду, справядлівасць, на аб'ектыўныя паняцці дабра і зла. Да таго ж Касцёл мае права і абавязак навучання адносна маральнасці ў дзяржаўных і грамадскіх справах, асабліва калі яны датычаць асноўных правоў чалавека і яго збаўлення.

### Касцёл – месца збаўлення

Нельга ісці за Хрыстом і любіць Яго, адначасова адкідаючы Касцёл, бо Касцёл – гэта Яго Містычнае Цела. І як галава і цела складаюць адно цэлае, так і Хрыста нельга аддзяліць ад Касцёла. Папулярнаму сёння дэвізу "Хрыстус – так, Касцёл – не" можна супрацьпаставіць словы вышэйзгаданага святога Цыпрыяна: "Па-за Касцёлам няма збаўлення". Гэтая праўда нікому не адмаўляе магчымасці быць збаўленым, як і не гарантуе збаўленне тым, хто фармальна да Касцёла належыць. Яна азначае, што Касцёл, які Бог заснаваў дзеля нашага збаўлення, прысутны ўсюды, дзе гэтае збаўленне рэалізуецца. Кожны мае шанс быць збаўленым менавіта таму, што Касцёл існуе.

### Святы Касцёл грэшных людзей

**"Калі хтосьці расчараваўся ў Касцёле, трэба спытаць, у які Касцёл ён верыў і як верыў?"**

Можа, у яго ўяўленні гэта павінна быць ідэальная супольнасць святых людзей? Калі так, то, затрымаўшыся на чыста знешнім, павярхоўным поглядзе на Касцёл, можна і сапраўды страціць ілюзіі: раптам ён праяўляецца як супольнасць, што складаецца з недасканалых людзей і абмежаваных структур? Між тым па-сапраўднаму верыць у Касцёл – азначае верыць у сталую прысутнасць у ім Езуса Хрыста і Духа Святога. Касцёл святы, бо ў ім ёсць Хрыстос, бо Ён заснаваў яго на падмурку Апосталаў і абяцаў, што "брамы пякельныя не перамогуць яго" (Мц 16,18). Касцёл грэшны, бо ён належыць таксама да чалавечай рэчаіснасці, дзе грэшнасць часта зацямняе бляск святасці. Недасканаласць нашых братоў у Хрысце, згаршэнне, выкліканае людзьмі Касцёла, не павінна быць для нас падставай, каб адысці, а хутчэй, нагодай для малітвы і пакуты.

Ёзаф Ратцынгер (будучы Папа Бэнэдыкт XVI) у 1971 г. у сваіх разважаннях параўнаў Касцёл з Месяцам, які не мае ўласнага святла, але атрымлівае яго ад сонца, без чаго запанавала б поўная цемра. Месяц сам па сабе не што іншае, як скалы і пяскі, але ён адбівае святло. "Ці ж гэта не дакладны вобраз Касцёла? – пытаецца Ратцынгер. – Кожны, хто вывучае яго і паглыбляецца ў яго, таксама, як і на Месяцы, нічога не адкрые, акрамя пустэчы, пяскоў і скал – чалавечых слабасцяў. Бясспрэчным з'яўляецца той факт, што нават калі Касцёл – гэта пясок і каменне, аднак па Божай міласці ён з'яўляецца Святлом".

### Любіце Касцёл!

Удзячная любоў да Касцёла, да супольнасці братоў у Хрысце, звязана з любоўю і адданасцю самому Хрысту. Яна выражаецца асаблівым чынам у добраахвотнай дапамозе тым братам, якія найбольш яе патрабуюць, а таксама ў падтрымцы слабейшых у веры. Маім абавязкам з'яўляецца ўзмацняць іх сваім прыкладам, добрай радай і малітвай і не падвяргаць іншых згаршэнню, бо Касцёл мае таксама мой твар.

У далёкім 1968 годзе, калі моцныя хвалі крытыкі накрывалі Касцёл не толькі з боку свету, але пашыраліся і ў самой каталіцкай супольнасці, Папа Рымскі Павел VI заклікаў: "Любіце Касцёл! Надышоў час, каб любіць Касцёл сэрцам моцным і адноўленым. [...] Калі нашым абавязкам з'яўляецца любіць бліжняга, незалежна ад таго, у якім выглядзе ён нам прадстаўлены, а любоў гэтая мусіць быць тым большай, чым больш ён зранены і пакутуе, то мы павінны памятаць, што Касцёл – і ён таксама – з'яўляецца нашым бліжнім. [...] Заганы і недахопы Касцёла павінны зрабіць мацнейшай любоў у сэрцы таго, хто хоча быць жывым, здаровым і цярплівым чальцом Касцёла. Так паступаюць сапраўдныя сыны, так паступаюць Святыя".

# "Виноградник Рахили" в Орше



**С 26 по 28 ноября в Орше пройдет особенный курс "Виноградник Рахили" по исцелению и преодолению постабортного синдрома, а также травмы утраты потомства (например, выкидыш). Если вы знаете людей, страдающих от ПАС, – смело рекомендуйте им.**

"Виноградник Рахили" – это программа психологического и духовного исцеления от ран аборта – убийства нерождённого ребёнка в лоне его матери. Программа была разработана американским психотерапевтом и верующей католичкой доктором Терезой Кармински Бёрк. Одна из её пациенток несколько лет проходила терапию из-за жестоких нарушений пищевого поведения, но ничего не менялось. Как та женщина из Евангелия от Луки, которая страдала от кровотечения (Лк 8, 25-34), она потратила много времени и денег, много претерпела от врачей, но не получила никакой пользы. Однажды на встрече группы поддержки, в которой все женщины страдали от подобных проблем, она сделала почти немыслимое по тем временам и в той культурной среде признание: "Это началось после того, как я сделала аборт...". И дальше пошла лавина: "И у меня...", "И у меня...", "И у меня..."... Женщины нарушили жёсткое социальное табу: заговорили о том, о чём все знали, но никто не смел говорить – об абортах и об их последствиях.

Ответом на этот крик запретной боли и стала программа "Виноградник Рахили", начавшая свою работу в 1986 году. Преодолевая сопротивление и трудности, "Виноградник Рахили" распространялся в США, потом, перешагнув государственные и культурные границы, пришёл в Австралию и Европу. В 1994 году доктор Бёрк опубликовала книгу "Виноградник Рахили: путь психологического и духовного исцеления после аборта", которая к настоящему времени переведена на 14 языков.

"Виноградник Рахили" – это не тренинг психологической помощи, хотя конечно, такая помощь является органично необходимым компонентом программы. "Виноградник Рахили" – это реколлекции, духовные упражнения для тех, кто обращается к Богу с мольбой об исцелении от ран, нанесённых абортом и его последствиями. Фундамент этих реколлекций – вера, что только Бог является источником всякого исцеления в мире, и что в Своём всемогущем милосердии Он может исцелить любую рану и успокоить любую боль, если мы обращаемся к Нему с искренним раскаянием и доверчивой молитвой.

Как и любые реколлекции, "Виноградник Рахили" предлагает участникам серию специально подобранных библейских текстов для медитации. Участники не просто слушают Слово Божие, они открывают ему своё внутреннее "ухо" и свой внутренний "взор", чтобы впустить благодать Божьего Слова в те подвалы памяти и те закоулки души, куда слишком страшно и больно заглядывать в одиночку. Это требует большого мужества и большого доверия Богу и к тем братьям и сёстрам во Христе, которые идут рядом в поисках исцеления, и кто сопровождает идущих этим путём. Без мужества и доверия невозможно открыться и заново переосмыслить историю аборта как историю греха, трагедии, прозрения, раскаяния, прощения и исцеления. И только пройдя весь этот путь, держась за руку понимающего ближнего, можно принять исцеление, которое даёт Господь, и услышать от Него: "Дерзай, дщерь! Вера твоя спасла тебя; иди с миром" (Лк 8, 48).

Травму аборта несут не только те, кто сам его пережил: она обрушивается на многих и живёт десятилетиями. Среди участников встреч бывают и бабушки, которые оплакивают своих нерождённых внуков, и те, кто всю жизнь тоскует по убитым до рождения братьям и сёстрам, племянникам и племянницам, мучаясь "виной выжившего".

В Орше курс проведёт католический психолог из России Ирина Мальцева с российскими и белорусскими помощницами.

*Запись по тел.:*
*+37529 3062222, +37533 3062222.*
*Адрес: г. Орша, ул. Советская, 6*

## Хвала Хрысту!



*Шчыра віншуем з Днём анёла-ахоўніка **ксяндза Андрэя Бульчака** з суседняй парафіі Езуса Міласэрнага. Пад апекай ксяндза Андрэя вырaслі не толькі сцены новага касцёла, але і колькасць вернікаў у яго парафіі. Святар мае час на кожнага, хто да яго звяртаецца. Ён так шмат робіць для юных парафіян, ахінае клопатам пажылых. Шчыра жадаем шаноўнаму ксяндзу Андрэю моцы духа, сілы і дапамогі Анёла-ахоўніка, апекі Маці Божай у ажыццяўленні планаў. Паважаны ксёндз Андрэй, вядзіце і далей свой статак вернай дарогай да Божага Валадарства.*

***Парафіяне касцёла Святога Антонія Падуанскага***

## Хвала Хрысту!



*Шаноўны **ксёндз-пробашч Алег Півавар!** Мы шчыра віншуем Вас з днём нараджэння (6 лістапада) і чарговай гадавінай святарскага пасвячэння (12 лістапада)!*

*Што сорак год? Зусім нямнога,*
*Але паспелі Вы галоўнае спазнаць.*
*Вы Боскую абралі для жыцця дарогу,*
*І многа душ людскіх змаглі ўратаваць!*
*Вы нібы промень дзеля справаў важкіх,*
*Бо цераз Вас збаўляе Бог людзей.*
*Хай добры Божа ў кожны момант цяжкі*
*Напоўніць моцаю і мудрасцю сваей!*

*Дарагі ксёндз Алег! Бог узнагародзіў Вас шматлікімі дарамі. Найбольшы з іх – чулае і адкрытае сэрца! Мы шчыра дзякуем Вам за святло душы, за павучальныя казанні, за лагодную ўсмешку і зычлівасць, за клопат пра людзей, за тое, што на працягу гэтых пяці гадоў Вы дзеліце з намі нашы няўдачы і поспехі, разам з намі радуецеся і сумуеце. Вы вучыце нас слухаць Бога, штодзённа жыць Божай ласкай, дапамагаеце ў складаных жыццёвых сітуацыях. За гэты час Вы сталі для нас сапраўдным сябрам, мудрым настаўнікам, добрым прыкладам веры і набожнасці.*

*Жадаем Вам моцнага здароўя, шчасця, шчодрых Божых ласкаў, апекі Маці Божай, багатых дароў Духа Святога! Няхай кожны новы дзень прыносіць Вам толькі добрыя весткі, сэрца не кранаюць трывогі і смутак, а служэнне, да якога Вы ставіцеся гэтак адказна, прыносіць толькі задавальненне і радасць!*

***З любоўю і павагай,***
***вернікі капліцы Св. Антонія Падуанскага (вёска Гарадзішча Докшыцкага раёна)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Паважаны **ксёндз Алег Півавар!** Ад шчырага сэрца прыміце нашы віншаванні з нагоды 40-годдзя (6 лістапада) і чарговай гадавіны святарскага пасвячэння (12 лістапада)!*

*Няхай супакой і радасць паселяцца ў Вашым сэрцы, а ўсмешка ніколі не сыходзіць з Вашага твару! Няхай святло Хрыста асвячае Вашу святарскую дарогу, а Божая Міласэрнасць і апека Маці Божай дадаюць сіл і цярплівасці ў нялёгкай святарскай паслузе!*

*Жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, здзяйснення ўсіх планаў і намераў!*

*Наш дарагі ксёндз Алег! Няхай Анёл-ахоўнік спляце вянок з найпрыгажэйшых малітваў на Вашае 40-годдзе ў знак нашай любові і павагі! Сто гадоў крочыць Вам дарогай святарства!*

*Дзякуем Вашым бацькам за сыноў-святароў!*

***З вялікай павагай і малітвамі,***
***парафіяне касцёла Св. Айца Піа ў Лёзне***

## Хвала Хрысту!

*6 лістапада **ксёндз Алег Півавар** адзначыў Дзень нараджэння, а 12 лістапада – чарговую гадавіну святарства.*

*Мы сардэчна віншуем нашага пастыра! Жадаем моцнага здароўя, хрысціянскай радасці і супакою, Божай дапамогі ў штодзённых справах, апекі Анёла-ахоўніка! Няхай Маці Божая атуляе сваёй міласэрнасцю і дабрынёй, а Святы Дух хай дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і шчодра адорвае сваімі дарамі!*

***З павагай і малітвай,***
***вернікі Валкалацкай парафіі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус !

*Паважаны **ксёндз-дэкан Андрэй Кулік!***

*Мы, парафіяне Дзеркаўшчынскай парафіі, вельмі ўдзячныя Вам за працу і ўсё, што Вы для нас зрабілі. Віншуем Вас з імянінамі!*

*Дарагі наш ксёндз Андрэй!*
*Вам жадаем ад душы:*
*Хай узмоцніць ласку веры*
*Маці Божая з Вышынь.*

*Шлях святарскі хай сагрэе*
*Божы Провід моцай ласк.*
*На жыцця шляху сустрэне*
*Толькі мір, спагада Вас.*

*Дзякуем ад сэрца кожны*
*За паслугу алтара.*
*Доўгіх год Вам, плённай працы,*
*Сіл, здароўя і дабра!*

*Нізкі Вам паклон ад нас.*

***Парафіяне з Дзеркаўшчыны***

## Хвала Хрысту!

*30 лістапада адзначае імяніны наш шаноўны **пробашч Андрэй Кулік.***

*Ад усіх парафіян дасылаем Вам, шаноўны ксёндз Андрэй, віншаванні і самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, вытрымкі, душэўнага спакою і Божай ласкі! Няхай Пан Бог узнагародзіць Вас за адданую працу ў нашай цёплай святыні і за новыя прыгожыя звычаі!*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю,***
***вернікі мёрскага касцёла***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*12 лістапада наша парафія сардэчна віншавала нашага пробашча **ксяндза-каноніка Валерыя Орсіка** з нагоды 16-годдзя святарскага пасвячэння. Мы вельмі-вельмі шчаслівыя, што Міласэрны Бог паслаў нам такога пробашча: святара ад Бога, анёла-ахоўніка для нашай парафіі, які з'яўляецца святлом і лекарам нашых цёмных і збалелых душаў. Усяго нейкіх 5 месяцаў ён працуе ў нас, а мы ўжо моцна палюбілі яго і не ўяўляем без яго нашага духоўнага жыцця. Гэта святар вельмі глыбокай Божай веры, ахвярны і бездакорны, з вялікім любячым, спачувальным, чыстым сэрцам. Ён проста свеціцца святасцю! З такім ксяндзом нават ніякая “пандэмія” не страшная.*

*Ад усяго сэрца хочам падзякаваць маме нашага ксяндза Валерыя за належнае, прыкладнае, пабожнае выхаванне сына. Жадаем ёй моцнага здароўя і шчодрых Божых ласк, многіх гадоў жыцця!*

*А нашаму дарагому пробашчу жадаем фізічных сілаў, цярплівасці і радасці ў нялёгкай святарскай працы, каб такая мілая і абаяльная ўсмешка, ад якой змяняецца самы дрэнны настрой, заўсёды была на твары!*

*Мы, вернікі, са свайго боку абяцаем Вам, паважаны наш святар, сваю падтрымку і пасільную дапамогу.*

***З удзячнасцю і шчырай павагай,***
***вернікі Дзеркаўшчынскай парафіі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*У нашай парафіі святых апосталаў Пятра і Паўла працаваў ксёндз Генадзь Ляўкоў. Зараз яго з намі няма па стане здароўя. 19 лістапада ў нашага былога пробашча – Дзень нараджэння.*

*Ад усяго сэрца віншуем Вас, паважаны ксёндз Генадзь, з гэтай нагоды! Няхай Маці Божая падтрымлівае Вас у цярпеннях! Здароўя, здароўя і яшчэ раз здароўя! А мы абяцаем шчырую малітву за Вас!*

***Вернікі з Дрысвят (Браслаўскі раён)***

## Паважаная рэдакцыя!

*Напрыканцы кастрычніка свае імяніны адзначыў **ксёндз Тадэвуш Кавальскі**, які працуе ў Віцебскай дыяцэзіі.*

*Мы, парафіяне верхнядзвінскага касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі, хацелі б выказаць святару сваю вялікую ўдзячнасць за працу на нашай зямлі.*

*Айцец Тадэвуш служыў у Верхнядзвінскай парафіі шэсць гадоў. А ўсяго яго святарскі шлях налічвае звыш трыццаці гадоў, большую частку якога ён аддаў Беларусі. Ксёндз нёс службу ў Маладзечне, дзе будаваў касцёл, у Параф'янаве, дзе адраджаў веру, у Верхнядзвінску, дзе шмат зрабіў дзеля яе ўмацавання, затым у Докшыцах і Бягомлі. На кожным месцы ён аддаваў многа сіл і цярпення дзеля аднаўлення духоўнасці на нашай зямлі. Айцец Тадэвуш заўсёды гаварыў, што святарскі шлях тым больш каштоўны, чым больш цяжкасцей удаецца пераадолець. Ён так і працуе: з поўнай аддачай, імкнучыся прынесці людзям найбольшую карысць.*

*На Верхнядзвіншчыне а. Тадэвуш многа зрабіў для ўмацавання святынь: раманатаваў, праводзіў камунікацыі, добраўпарадкоўваў. Пабудаваны малітоўныя дамы ў Каханавічах і Сар'і.*

*Праводзілася вялікая работа з дзецьмі і моладдзю, ладзіліся Калядныя сустрэчы, “Канікулы з Богам”, арганізавана суполка “Легіён Марыі”. Асаблівую ўвагу надаваў святар рабоце з людзьмі, якія злоўжываюць спіртнымі напоямі. Стварыў гурток цвярозасці пры касцёле, і дзякуючы яго працы многія людзі адмовіліся ад шкодных звычак.*

*Мы заўсёды памятаем і цэнім адметныя чалавечыя якасці ксяндза: сціпласць, прыстойнасць, працавітасць, далікатнасць. Ён ніколі не павышаў голас, не выказваў незадаволенасці, але сваімі верай, настойлівасцю, уменнем пераконваць дабіваўся поспеху ў любой справе.*

*Айцец Тадэвуш стаў для нас прыкладам шчырай веры, адданай малітвы, імкнення да святасці. З нагоды імянінаў жадаем яму моцы духу, сіл і здароўя, новых здабыткаў на святарскім шляху! Будзем прасіць у Бога патрэбных ласкаў для святара, а ў Найсвяцейшай Панны Марыі – заступніцтва і апекі!*

***З павагай і падзякай,***
***парафіяне з Верхнядзвінска***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Паважаны **ксёндз Славамір Самковіч!***

*З удзячнасцю і павагай віншуем Вас з імянінамі (5 лістапада) і чарговай гадавінай святарскага пасвячэння (12 лістапада). Просім для Вас Божага блаславення. Няхай Матуля наша апякуецца Вамі, а анёлы і святыя дапамагаюць Вам у справе Касцёла і ў асабістым жыцці. Просім для Вас моцнага здароўя, даўгалецця.*

*Мы Вас заўсёды чакаем у нашых касцёлах. Просім у Пана Бога развіцця руху “Апостальства дапамогі душам чысцовым”.*

***З павагай, удзельнікі руху***
***“Апостальства дапамогі душам чысцовым”***
***з касцёлаў у Мёрах, Ідолце, Павяцці***



*Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*Шаноўны і дарагі наш* ***айцец-пробашч Анджэй Юхневіч!***

*Дазвольце павіншаваць Вас з Днём Анёла, які Вы адзначаеце 30 кастрычніка.*

*Айцец Анджэй!*
*Гэта імя вялікае,*
*Што мама для Вас выбрала...*
*Звяртаемся да Пана Бога і просім*
*Для Вас жыцця дзён многіх і многіх вёсен.*
*Здароўя, шчасця, святла ў дарозе*
*І ў снежную зімку, і ў шэрую восень.*
*Каб кожны дзень для Вас быў дасланы*
*Святлом, дабром і радасцю,*
*А таксама - вялікай чалавечай удзячнасцю!*

***З павагай і шчырай удзячнасцю, вернікі парафіі Святога Вінцэнта Дэполя, г.п. Обаль, Шумілінскі раён***

*Хвала Хрысту!*

*Шаноўны* ***ксёндз Сяргей!***

*Шчыра віншуем Вас з 20-годдзем святарскага пасвячэння (11 лістапада). Няхай агеньчык дабрыні да ўсіх людзей, запалены Панам Богам у Вашым сэрцы, гарыць усё Вашае святарскае жыццё! Жадаем Вам, ксёндз Сяргей, Божага блаславення, моцнага здароўя, шчодрага плёну ў нялёгкай душпастырскай працы, добразычлівых людзей, гатовых прыйсці на дапамогу, а таксама жадаем дароў мужнасці, мудрасці і аптымізму!*

*Дзякуем за Вашу працу і чуласць, за добрыя справы, здзейсненыя на карысць нашай парафіі. Няхай Маці Божая і Дух Святы напаўняюць Ваша жыццё верай, надзеяй і любоўю!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Друі***

# Из актрисы в монахини: история жизни

**Отсканируйте QR-код своим смартфоном, чтобы посмотреть свидетельство сестры Клэр Крокет, монахини из Ирландии.**

# Католическая Церковь в цифрах. Последние данные

**В то время как католическое население Европы продолжает сокращаться, рост католиков отмечается в других частях мира, особенно в Африке. Служба новостей Fides опубликовала статические данные о Церкви, чтобы верующие и все интересующиеся имели представление о том, что происходит в Церкви.**

Как и каждый год, ко Всемирному дню миссий Fides (информационная служба Папских миссионерских обществ) представила данные из "Статистической книги Церкви", последнее издание которой отражает сведения на 2019 год* по количеству, увеличению (+) или уменьшению (-) членов Церкви, церковных структур, католических проектов в области здравоохранения, социального обеспечения и образования по сравнению с отчетом за 2018 год.

### Население мира

По состоянию на конец 2019 года численность населения мира достигла 7 577 777 000 человек, что на 81 383 000 человек больше по сравнению с предыдущим годом. Рост населения отмечен на всех континентах, включая Европу. Больше всего население увеличилось в Азии (+40 434 000) и Африке (+33 360 000), за ними следуют Северная и Южная Америка (+6 973 000), Океания (+459 000) и Европа (+157 000).

### Количество католиков

В то же время католиков в мире насчитывалось 1 344 403 000 человек, что на 15 410 000 больше, чем в предыдущем году. Увеличение замечено на всех континентах, кроме Европы, где численность католиков сократилась на 292 000 человек.

"Как и в прошлом, рост был зарегистрирован, прежде всего, в Африке (+8 302 000) и в Америке (+5 373 000), за которыми следуют Азия (+1 909 000) и Океания (+118 000)", – сообщает Fides.

Католическое население остается стабильным с ростом всех жителей планеты. По состоянию на конец 2019 года католики составляли 17,74% мирового населения, что на 0,01% больше, чем годом ранее.

### Духовенство

Количество католических епископов в мире уменьшилось на 13 человек – до 5 364. Общее число священников в мире увеличилось до 414 336 (+271). Из них епархиальных – 282 136 (+262), членов орденов и конгрегаций – 132 200 (+9). Континенты, на которых было зарегистрировано снижение, – это Европа (-2 608), Америка (-690) и Океания (-69). Рост – в Африке (+1 649) и Азии (+1 989). За год на всех пяти континентах (особенно в Европе и Америке) выросла численность постоянных дьяконов, которых теперь 48 238 человек (+734).

Таким образом, количество католиков на одного священника составило 3 245 (+35) человек.

### Монашествующие

Численность монахинь снизилась на 11 562 человека и составляет 630 099 человек. Рост вновь был зарегистрирован в Африке (+835) и в Азии (+599), а сокращение – в Европе (-7 400), Северной и Южной Америке (-5 315) и Океании (-281). Количество монахов (мужчин) увеличилось только в Африке (+89), но в целом уменьшилось на 646 человек, до 50 295.

### Миссионеры-миряне и катехизаторы

Число миссионеров-мирян во всем мире выросло на 34 252 человека и составляет 410 440 человек. Число катехизаторов снизилось на 2 590 человек, до 3 074 034.

### Семинаристы

Количество студентов высших семинарий – епархиальных и монашеских – сократилось на 1822 человека, до 114 058 человек. Африка была единственным континентом, где число семинаристов увеличивалось (+509), а снижение отмечено в Азии (-898), Океании (-53), Европе (-630) и Северной и Южной Америке (-750).

### Католические школы и другие образовательные учреждения

Католическая Церковь содержит 72 667 детских садов, которые посещают 7 532 992 детей, 98 925 начальных школ с 35 188 771 воспитанниками и 49 552 средние школы с 19 370 763 учащимися. Кроме того, в католических университетах обучается 3 833 012 студентов.

### Благотворительные и медицинские центры

Церковные благотворительные и медицинские центры в мире включают: 5 245 больниц, большинство из которых в Африке (1418) и в Северной и Южной Америке (1362); 14 963 диспансера, в основном в Африке (5 307), Северной и Южной Америке (4 043); 532 лепрозория, в основном в Азии (269) и Африке (201); 15 429 домов для престарелых, страдающих хроническими заболеваниями или инвалидов, в основном в Европе (8 031) и в Америке (3 642); 9 374 сиротских приюта, в основном в Азии (3 233) и в Европе (2 247); 10 723 яслей, в основном в Азии (2 973) и в Северной и Южной Америке (2 957); 12 308 консультационных центров по вопросам брака, в основном в Европе (5 504) и Америке (4 289); 3 198 центров социальной реабилитации и 33 840 других учреждений.

**Так как сбор информации со всего мира – это сложный и долгий процесс, представленные данные еще не отражают последствий всемирной пандемии КОВИД-19. Первая статистика за период с начала распространения коронавируса будет опубликована в 2022 году.*

***Служба новостей Fides,***
*catholic-kazakhstan.org*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета***
***"Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Як гэта магчыма, што чалавецтва пайшло з адной пары?

**“Адкажыце, калі ласка, як так стала магчыма, што чалавецтва пайшло з адной пары?”**

*Ян*

— Гэтае пытанне датычыць пачатку існавання чалавечага роду, што да сённяшняга дня застаецца таямніцай, наблізіцца да якой дапамагаюць тэорыі, але не догмы. Дагэтуль Каталіцкі Касцёл выразна не здагматызаваў пытання пра паходжанне чалавецтва з адной пары, паколькі ў кампетэнцыі Касцёла знаходзяцца перш за ўсё справы веры і збаўлення чалавека. Гістарычным і біялагічным жа пачаткам чалавецтва займаюцца эмпірычныя навукі, дасягненнямі якіх у сваю чаргу карыстаецца тэалогія. Распачынаючы адказ на гэтае пытанне, варта падкрэсліць, што мы будзем разглядаць тэорыі, а не аднязначнае беспамылковае навучанне Касцёла. На сённяшні дзень адносна дадзенага пытання Касцёл прытрымліваецца тэорыі монагенізму.

Тэорыя монагенізму заключаецца ў тым, што ўвесь чалавечы род паходзіць ад адной пары або аднаго чалавека. Некаторыя тэксты Святога Пісання наўпрост сведчаць пра монагенізм. Ёсць, вядома, урыўкі як у Старым, так і ў Новым Запаветах, якія гавораць пра монагенічнае паходжанне чалавечага роду. Хоць “Кніга Быцця” ў першым раздзеле маўчыць адносна гэтага пытання, аповед з “Быцця... (2-4) ужо прадстаўлены як гісторыя першых двух чалавечых істот, з якіх усё чалавецтва і пачалося. Пра гэта ж сведчыць і спасылка ў Мдр 10,1 на “першастворанага (πρωτόπλαστον) айца свету”. У пропаведзі Паўла да афінян (Дз 17,26) мы знаходзім наступны радок: “З аднаго чалавека (ἐξ ἑνὸς πᾶν ἔθνος ἀνθρώπων) Ён вывеў увесь род чалавечы, каб жыў ён на ўсім улонні зямлі, назначыўшы наперад часы і межы яго пражыванню”. Некаторыя рукапісы, аднак, побач з выразам “чалавек” ужываюць выраз “кроў” (ἐξ ἑνὸς αἵματος πᾶν ἔθνος ἀνθρώπων). А гэта ўжо сур’ёзнае пашырэнне інтэрпрэтацыйнага поля паняцця “монагенез” у Біблії.

Прынамсі да сярэдзіны XIX ст. (тэорыя эвалюцыі) монагенізм абапіраўся на біблійнае навучанне аб стварэнні першага чалавека або людской пары асаблівым боскім дзеяннем. Улічваючы пераважныя доказы біялагічнай эвалюцыі, монагенізм больш не разумеюць такім чынам. Але калі першая чалавечая пара паўстала ўсё ж праз гэты эвалюцыйны працэс, навучанне Касцёла адносна душы кожнага чалавека застаецца нязменным: яна створана непасрэдна Богам. Таму ў дадзеным выпадку вучэнне монагенізму будзе выглядаць так: ад адной чалавечай душы, якая ў пачатку гісторыі здзейсніла грэхападзенне, пачынаецца ўвесь чалавечы род, цяпер ужо пазначаны плямай першароднага граху.

Становішча, супрацьлеглае монагенізму, вядомае як полігенізм, які бывае двух тыпаў. У адпаведнасці з першым (так званы “монафілетычны полігенізм”), паколькі эвалюцыя заўсёды працякае ў межах групы, якая скрыжоўваецца, чалавецтва ўпершыню з’явілася сярод шэрагу асобаў, чые нашчадкі сталі паступова распаўсюджвацца па ўсім свеце. Такім чынам, можна было б казаць пра першую супольнасць, а не першую пару або першага чалавека. Другі тып (так называецца “поліфілетычны полігенізм”) мае на ўвазе тое, што чалавечы род узнік праз асобныя эвалюцыйныя лініі ў розных месцах у розны час. Гэтыя лініі сышліся ў пэўны момант гісторыі, каб сфармаваць нашае сучаснае чалавецтва. Навукоўцы не прыйшлі да адзінага меркавання, якая з двух версій полігенізму – монафілетычная або поліфілетычная – больш верагодная.

Вернемся да монагенізму, які быў сур’ёзна ўзяты пад увагу падчас Трыдэнцкага сабору ў вучэнні пра першародны грэх. Найбольш выразнае сцвярджэнне аб монагенізме прагучала ў 1950 г. у энцыкліцы Папы Пія XII Humani generis. Класічным месцам па дадзеным пытанні дагэтуль з’яўлялася Пасланне святога Паўла да Рымлянаў (Рым 5,12), дзе выразна падкрэсліваецца шкода, якую нанёс усім нам грэх Адама. Гэта значыць, што Апостал Павел сцвярджае гістарычна рэальны першародны грэх (peccatum originale originans), каб растлумачыць стан першароднага граху (peccatum originale originatum), ад якога пакутуе кожны чалавек з першага моманту свайго існавання. Вучэнне Касцёла было выразна сфармулявана на Трыдэнцкім саборы (1545–1563 гг.): віна за гэты грэх з’яўляецца спадчынай усіх людзей. Далей Сабор сказаў: грэх Адама па сваім паходжанні адзіны, і ён перайшоў на ўсіх шляхам распаўсюджвання праз сам факт зачацця чалавечага жыцця.

Спасылаючыся на Рым 5,12 і вучэнне Трыдэнта, Папа Пій сцвярджаў, што вернікі не могуць прымаць за праўдзівае вучэнне полігенізм, бо ў гэтай тэорыі Каталіцкі Касцёл не бачыць магчымасці прымірыць са Святым Пісаннем і навучаннем Касцёла праўду аб першародным граху, а менавіта, што гэты грэх быў насамрэч здзейснены асобным чалавекам, і ён перадаецца з пакалення ў пакаленне на ўсіх людзей. Моцным аргументам Пія XII з’яўляецца, па-першае, націск на разуменне першароднага граху як адзінага па паходжанні, г.зн. здзейсненага як адно дзеянне. Па-другое, Папа падкрэсліў, што першародны грэх пераходзіць на чалавека праз біялагічнае паходжанне. Па-трэцяе, калі б паходжанне чалавека было полігенетычным (або поліфілетычным), то з гэтага вынікала б, што сучаснікі Адама (і, магчыма, некаторыя з яго нашчадкаў) былі людзьмі, свабоднымі ад першароднага граху. Паколькі ніводзін чалавек не вольны ад гэтай плямы першых бацькоў, што выразна сцверджана Трыдэнцкім Саборам, Папа Пій адхіліў полігенез як несумяшчальны з дактрынай першароднага граху.



З улікам заявы Папы Пія многія тэолагі пачалі сцвярджаць, што монагенізм настолькі цесна спалучаны з вучэннем аб першародным граху, што яго трэба лічыць ужо не тэорыяй, але прынцыпам веры. Але нязгодныя з гэтым высновы робіць сучасная эмпірычная навука, якая катэгарычна супраціўляецца такому ўспрыманню паходжання чалавека. З аднаго боку, нават няглядзячы на тое, што гэта не было афіцыйна вырашана праз Magisterium Ecclesiae (афіцыйнае навучанне Касцёла) з часоў Humani generis, монагенізм працягвае лічыцца асноўнай тэорыяй у касцельным навучанні адносна першароднага граху, што паказана адпаведнымі параграфамі Катэхізісу Каталіцкага Касцёла (§§ 374–379, 390, 399–407). З іншага боку, адмаўленне полігенічнага паходжання чалавечага роду ставіць тэалогію ў апазіцыю да дакладнай навукі і стварае антыкаталіцкі вобраз цемрашальскай веры, якая змагаецца з праўдай розуму.

Развіццё тэалагічнай навукі працягваецца побач з развіццём кожнай эмпірычнай галіны ведаў, бо праўда адна. Таму можна сказаць, што навука ў яе прамым імкненні да дакладных дадзеных “прымусіла” тэалогію да больш глыбокага разважання над сваім цэнтральным сцвярджэннем, што Хрыстус (а г.зн. у дадзеным выпадку паўната і вяршыня Божага адкрыцця) знаходзіцца ў цэнтры ўсяго (пар. Клс 1,16).

Відавочна, Magisterim надалей настойвае на монагенізме дзеля абароны вучэння аб першародным граху, паводле якога, як гэта тлумачаць айцы Трыдэнцкага сабору, кожны чалавек належыць да аднаго парадку чалавечага быцця, што па сутнасці змянілася пасля грэхападзення ў горшы бок, фізічна і духоўна. Такім чынам, “прысуд” Пія XII у Humani generis, вынесены полігенізму, датычыць падыходу да першароднага граху і адпаведна “першых” бацькоў. Калі навука мае рацыю наконт механізмаў, якія далі пачатак біялагічнаму віду Homo sapiens, то адна з альтэрнатываў тэалогіі з яе падкрэсленнем монагенізму – разгледзець магчымасць таго, што карані першага бунту чалавека супраць Стваральніка больш глыбокія, чым нават цяперашні эмпірычны стан чалавека. Так, напрыклад, разважае ў сваёй працы пад назвай “Тэалагічная антрапалогія” (1963) швейцарскі тэолаг Ханс Урс фон Бальтазар. Ён піша, што, магчыма, першасная рашэнне, якое сфармавала спадчынную грахоўнасць чалавека, знаходзіцца ў па-над часовым, па-над матэрыяльным, па-над касмаганічным і антрапаганічным працэсам. У прыватнасці, тут ідзе мова пра больш высокае, чым біялагічнае, развіццё чалавека, а менавіта пра духоўнасць, якая, здаецца, у першым шэрагу падпарадкоўваецца закону грахоўнай смерці і, адпаведна, найбольш поўна адчувае сябе спадкаемцам бунту першых бацькоў.

*Бібліяграфія*


*1. K.A. Mcmahon, “Monogenism and Polygenism”, New Catholic Encyclopedia. Second edition (ed. B.L. Marthaler), V. 9 (Washington, D.C. 2003). – 813-814.*

*2. Катехизис Католической Церкви, 4-е издание. – Москва, 2002.*

*3. Христианское вероучение. Догматические тексты Учительства Церкви (III-XX вв.) – Санкт-Петербург, 2002.*

*4. K.W. Kemp, “Science, Theology, and Monogenesis”, American Catholic Philosophical Quarterly, V. 85, No. 2 (2011). – 217-236.*

*5. Pius XII, Humani Generis, https://www.vatican.va/content/pius-xii/en/encyclicals/documents/hf_p-xii_enc_12081950_humani-generis.html (доступ 5.11.2021).*


***Кс. Валерый Марціноўскі,***
*доктар тэалогіі*

# Унікальныя фрэскі знайшлі ў Нясвіжы

**Рэстаўрацыя касцёла Божага Цела ў Нясвіжы распачалася яшчэ ў 2010 годзе з рамонту даху. Комплексная праца працягваецца і зараз.**

Падчас аднаўлення на фасадзе рэстаўратары знайшлі фрэскі канца XVI – пачатку XVII стагоддзяў. Наступнае напластаванне датуецца XVIII стагоддзем.

Пробашч парафіі ксёндз Пётр Шарко адзначае, што пра фрэскі на сценах фасада ўпамінаецца яшчэ да 1812 года. Потым, у 30-ых гадах, у інвентарнай кнізе яны не ўказаныя. Святар мяркуе, што Дамінік Радзівіл удзельнічаў у вайне 1812 года на баку Напалеона. З гэтай прычыны былі замаляваныя фрэскі, каб касцёл не знішчылі, бо там заставалася таксама шмат сімволікі Радзівілаў. Такім чынам святыня захавалася.

Святар расказвае, што ў часе рэстаўрацыйных прац былі зроблены зандажы і знойдзены пласты не толькі белага колеру. “Такія багатыя фрэскавыя роспісы на фасадзе – унікальная з’ява для Усходняй Еўропы”, – лічыць ён.

Сам фасад пакуль не адрэстаўраваны да канца. Працы будуць працягвацца да наступнага года. Пазней



планруецца адрамантаваць званіцу, капліцу Булгарына, агароджу.

***Ірына Радзевіч***




*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Арфеева***

# ТОП рэчаў для Адвэнту

**У нядзелю, 28 лістапада, у Касцёле распачынаецца Адвэнт – час падрыхтоўкі да Божага Нараджэння. У гэтым артыкуле “Каталіцкі Веснік” сабраў адвэнтавыя вырабы беларускіх майстроў, якія стануць для Вас прыемнай часткай у прадчуванні Свята.**



**Сямейны адвэнт-каляндар “Беларусь чакае Раство”, банер “Хвала на вышынях Богу”, калядны пазл і карткі з заданнямі да Адвэнт-календара**

Крама Kroplia.by – хрысціянскія падарункі па-беларуску. Гэта сямейная інтэрнэт-крама Паўла і Вольгі Севярынцаў. На Адвэнт Kroplia.by прапануе сямейны Адвэнт-каляндар “Беларусь чакае Раство”. На задняй вокладцы календара размешчана інструкцыя. Да яе прыкладзены план чытання Біблії на Адвэнт. Банэр “Хвала на вышынях Богу” падыдзе для аздаблення дома. Па амерыканскай традыцыі такія банеры разам з калядным вянком вешаюцца на ўваходныя дзверы дома звонку, каб кожны ведаў, што ў гэтым доме сям'я чакае Нараджэння Збаўцы. У Калядным пазле кавалачкі ўрэшце складуцца ў дзівосны малюнак – сцэну Божага Нараджэння. Карткі з заданнямі да Адвэнт-календара “Дарасці да Раства” дапамогуць Вам добра правесці час, упрыгожыць сваё жытло да свята і, самае галоўнае, падрыхтаваць сваё сэрца да Нараджэння Хрыста.

Замовы прымаюцца па тэлефоне: +375 (29) 593-71-60 або праз сайт kroplia.by. @kroplia.by – Instagram.



**Салодкі Адвэнт-каляндар**

Кандытар Вольга Драгун займаецца салодкімі дэсертамі больш за год. Дзяўчына пастаянна самаўдасканальваецца. Нядаўна яна прайшла курсы ў аднаго з найлепшых шэфаў Масквы, чэмпіёна свету А. Кісліцына ў яго кулінарнай школе Vip-Masters.

Адвэнт-каляндар, які прапануе Вольга, мае салодкі смак. Разам з тым ён нясе ў сабе шмат заданняў для дзяцей. Печыва ў такім вырабе раскладзена ў адпаведнасці з датамі ў календары.

Усю падрабязную інфармацыю Вы можаце даведацца па нумары тэлефона: +375(44) 740-41-68 (Viber, Telegram), а таксама на старонцы @somcakes у Instagram.



**Адвэнтавы вянок і падсвечнік**

Адмыслова для Адвэнту хэнд-мэйдэр Святлана Астасевіч стварыла вянок і падсвечнік. Чатыры свечкі, змешчаныя на вырабах, сімвалізуюць чатыры нядзелі Адвэнту, а іх запальванне па чарзе азначае гатоўнасць да прыходу Збаўцы. Дарэчы, самі падсвечнікі зробленыя з высокатрывалага гіпсу.

У дзяўчыны можна знайсці таксама шмат вырабаў і падарункаў рэлігійнай тэматыкі: нататнікі з хрысціянскімі сімваламі і выявамі святых, розныя фігуркі з гіпсу, паштоўкі, рэчы на вігілійны стол і г.д.

Для таго, каб замовіць адвэнтавыя або іншыя вырабы, неабходна патэлефанаваць па нумары: +375 (33) 308-13-67 або зайсці на старонку ў Instagram: marta_home_handmade



**“Хаткі святла”**

Алеся Козіч разам з мужам з'яўляюцца заснавальнікамі майстэрні "Клуб майстроў". Ужо пяць гадоў яны навучаюць кераміцы людзей, якія шануюць прыгажосць і творчасць. Натхняюць у тым ліку і сваімі працамі. Да Адвэнту як нельга дарэчы яны стварылі цудоўныя хаткі-падсвечнікі. Ідучы на вараты, дзеці могуць браць іх з сабою, каб асвятляць змрок.

Ліхтарыкі можна замовіць у майстроў. Аднак таксама ёсць цудоўная магчымасць самім зрабіць такія ж “Хаткі святла” на майстар-класах. Яны адбываюцца ў Мінску, у майстэрні па адрасе:

Праспект “Газеты Праўда”, 40/1. Па пытаннях звяртайцеся па нумары: +375 (29) 3468910.

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

# Як клерыкі-першакурснікі капаюць траншэі

**26 кастрычніка семінарысты, якія навучаюцца на падрыхтоўчым курсе Вышэйшай Духоўнай семінарыі, наведалі прытулак для дзяцей у вёсцы Багданава, што ў Валожынскім раёне.**

■ Ірына Радзевіч



Прыёмнымі дзецьмі, каторыя жывуць у сям'і, апякуюцца дзве жанчыны – Алена і Тэрэза, якія належаць да Інстытута кансэкраванага жыцця св. Тэрэзы.

Сем юнакоў разам са сваім духоўным айцом кс. Алегам Пятрашкам дапамагалі на тэрыторыі прытулку капаць траншэю, раўнялі ўчастак, грузілі камяні і будаўнічае смецце.

На зваротным шляху клерыкі наведалі Крэва і Баруны.

Нагадаем, што падрыхтоўчы год з сядзібай ў Мінску лічыцца першым годам навучання ў Вышэйшай Духоўнай семінарыі ў Гродне і Пінску. Калі казаць агулам, гэта такі падрыхтоўчы курс, які дазваляе хлопцам спазнаць асноўныя праўды веры, катэхізіс, каб потым распачаць семінарыйную фармацыю.

# Ахвяруй на “Каталіцкі Веснік”

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце “Каталіцкі Веснік” фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі

*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў

(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)

2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.

3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з'яўляецеся абанентам A1 ці іншага мабільнага аператара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на “Каталіцкі Веснік”, Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца.

Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.

**+37529 5102077 кс. Андрэй Аніскевіч**

**+37529 8945511 сп. Яўгенія**



**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – В; 2 – В; 3 – В; 4 – Б; 5 – А; 6 – Б; 7 – Б; 8 – А; 9 – Б; 10 – Б

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:** рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 5745

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3500 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк

Падпісана ў друк 17.11.2021 г. у 15.10

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь